У 1917 годзе Аўген Бартуль паступіў у першы клас школы імя Сестранцэвіча пры касцёле святога Станіслава. Але праз год хлопчык пакінуў вучобу, таму што ягоныя бацькі, у сувязі з рэвалюцыйнымі хваляваннямі і надыходзячага голаду, выехалі на радзіму ў Віцебскую губерню Дзісенскі павет Прыдруйскую гміну, дзе ў іх быў кавалак зямлі, на якой яны і пасяліліся.

Да восені 1922 года Аўгена вучыў бацька. А потым юны Бартуль паступіў ў пяты клас Дзвінскай дзяржаўнай беларускай гімназіі, якую закончыў у 1926 годзе. Пасля заканчэння гімназіі, стаў слухачом матэматчына-прыродазнаўчага факультэта Віленскага ўніверсітэта імя Стэфана Баторыя, на якім вывучаў хімію на працягу аднаго года. А потым быў залічаны студэнтам прыродазнаўчага факультэта. У 1928 годзе Аўген Бартуль перавёўся на юрыдычны факультэт універсітэта.

Калі вучыўся Аўген Бартуль у Вільні, на Дзісеншчыне памерлі яго бацькі. Апекавацца юнаком стаў просты селянін з Латвіі Уладзіслаў Камараневіч. Магчыма, гэта быў нейкі сваяк Бартуляў.

У 1931 годзе, пасля заканчэння Віленскага ўніверсітэта, Аўген Бартуль атрымаў званне магістар права. Працаваў следчым на Лідчыне і ў Вільні.

Пісаць па-беларуску пачаў тады, калі вучыўся ў Дзвінскай беларускай гітмназіі. А першыя творы ў друку з’явіліся ў 1925 годзе. З вершамі, артыкуламі і лірычнымі замалёўкамі выступаў у шматлікіх калектыўных зборніках, альманахах, у часопісах „Шлях моладзі”, „Калоссе”, „Студэнцкая думка”. На


Архіўнае фота

**Аўген Бартуль**

жаль, у канцы 1930-х гадоў Аўген Бартуль пакінуў пісаць, а таксама нікому не дазваляў перадрукоўваць свае творы. А калі гэта хто рабіў без дазволу, справа нават магла дайсці да суда. Чаму назаўсёды развітаўся з пяром таленавіты беларускі юнак, цяжка адказаць. Маленькая адгадка наконт гэтага выплывае толькі з успамінаў Максіма Танка („Лісткі календара”): „Каля „Бара Акацімскага” ледзь не напароўся на Х.Ільяшэвіча і А.Бартуля — не так даўно яшчэ двух славутых паэтаў (быў гэта 1935 год. — С.Ч.). Першы, стаўшы ценем Р.Астроўскага, п’е, спыніўшыся на нейкім раздарожжы паэзіі і непаэзіі, піша свае анемічныя, выхалашчаныя вершы; другі, як яго вусаты патрон, які, даехаўшы ў свой час на трамваі да прыпынку „Незалежнасць”, развітаўся з сацыялізмам, дабраўшыся да панскага карыта, развітаўся са сваім былым радыкалізмам і вершамі і зараз памагае пракурору пісаць акты абвінавачання супраць нас. Помню, у 1930 годзе мяне з імі пазнаёміла сястра Лю — Зося. А Бартуль тады, здаецца, адзначаў пяцігоддзе сваёй літаратурнай дзейнасці… Другая сустрэча была праз год, калі мяне ў наручніках прывезлі з Глыбокага ў Вільнюскі акруговы суд і прывялі на допыт да следчага, у пакоі якога я неспадзявана ўбачыў А.Бартуля. Ён увесь час, пакуль мяне дапытвалі, сядзеў за сталом, апусціўшы галаву, не адрываючы вачэй ад нейкіх папер. І вось — трэцяя сустрэча з памочнікам следчага. Добра, што не заўважылі мяне. Я спыніўся каля вітрыны кніжнага магазіна, у якой, быццам у люстры, бачыў, як яны перайшлі на другую старану вуліцы. Ля старой камяніцы, дзе, здаецца, мясцілася калісьці славутая друкарня Мамонічаў, стаяла некалькі рамізнікаў. Удвух яны, уваліўшыся ў сані, паехалі ў бок Нямецкай вуліцы. Можа, куды зноў піць…”.

У гады Другой сусветнай вайны Аўген Бартуль жыў і працаваў на Лідчыне. Адсюль ён пісьмова звярнуўся да старшыні Віленскага беларускага камітэта доктара-стаматолага Баляслава Грабінскага, каб той выслаў яму ліст-пацвярджэнне, што Бартуль з’яўляецца беларускім пісьменнікам. На што Баляслаў Грабінскі хутка даў адказ: „Ці не запозна вы пра гэта ўспомнілі?..”.

Пасля вайны след Аўгена Бартуля губляецца дзесьці на Захадзе.

Да сказанага вышэй хочацца ўсё ж дадаць, што які б ні быў жыццёвы і творчы шлях Аўгена Бартуля, з гісторыі беларускай літаратуры гэтае імя выкрасліць немагчыма. Дзесяткі ягоных твораў раскіданы па шматлікіх былых заходнебеларускіх выданнях. Некалькі вершаў Аўгена Бартуля, напісаныя тады, калі аўтару было толькі 20 гадоў, прапаную чытачам „Czasopisa”.

**Сяргей Чыгрын**

**Аўген БАРТУЛЬ**

## Бацькаўшчыне

Для цябе збудаваў я алтар ў сваім сэрцы,
У вопратку казак прыбраў я яго,
Для цябе, што стагнала ў чужой паняверцы,
Што знявагі цярпела й ад сына свайго.

Прад вяліччам тваім я схіліўся ў пакоры,
Прад вяліччам тваім, прад цярпеннем тваім,
І душа бунтавала, як хвалі на моры,
Дый спявала ўскрашэнню твайму, маці, гімн.
Даражэйшае шчасце тваё мне за волю,
За ўсялякія скарбы зямлі, за жыццё,
Бо і што ж мне жыццё ў параўнанні з табою,

Ты ўладар майго сэрца, маё багаццё.
І я вырву бунтарнае сэрца ў ахвяру,
Дый злажу я яго на твой слаўны алтар.
Потым віп’ю спакойна прызначання чару,
Дык прымі маё сэрца, вазьмі яго ў дар!

*Вільня, 1928 г.*

## Ўпярод!

Смялей, ўпярод праз гора і цярпенне,
Смялей — са светачам надзеі
Да шчасця будучага пакалення,
Для здзейснення святой ідэі.
Смялей, браты, няхай злуецца бура,
Хай пяруны ў бяссільнай злосці
Грымяць, і хай віхор пяе панура!
Смялей! Ці ж нас стрымае хтосьці?
Смялей! Замоўкне хутка буры песня,
Ўжо сонца лепшых дзён ўзыходзе
І шчасце расцвіце красой прадвесня;
Ўпярод! Смялее мой народ!

*1928 г.*

## Гэй, успыхні!

Тлее вогнік сінім блескам,
Тлее нудна, ледзь гарыць.
Гэй ты, ўспыхні з дзікім трэскам,
Калі жыць, дык знача жыць!
Буйным полымем ўзгарыся
Ярка-рэзкім прамянём,
Сотні іскрамі круціся,
У гару ляці снапом.
Каб угледзіць было можна,
Што агонь ты сапраўды,
Каб сказалі: „Асцярожна,
Бо наробіць ён бяды”.
Бурай дзікаю, іскрыстай
Ўспыхні, хоць загінеш ўраз,
У завеі залацістай
Момант лепш — чым тлеці час!

*1927 г.*

***

Браты мае, нас не адзін мільён,
Аднак ўкруг нас яшчэ туман,
Яшчэ нас змуча змора-сон
І цяпер смокча кроў кажан.
Над нашым краем плыве стогн,
Нядолі стогн зычыць між хат.
Плыве усюды і праклён,
Ў адчаі брата цісне брат.
Плыве праклён, нясецца стогн,
Ці ж сілы брацця ў вас няма?
Ці ж вечна будзе зычэць ён?
Ці ж так бяздольна старана?
Браты мае, ўзнясема трон,
Для Волі выведзем пасад.
Мы працай злучымся і стогн
Замоўкне, сціхне каля хат.
Замоўкне стогн і згіне сон
І блісне сонца з па-за хмар…
Браты! Нас не адзін мільён,
Наш край — вялізны ёсць абшар.
Патрэбна праца, а ёй ў тон
Ударам моцным загучыць
Наш вечавы, наш Волі звон,
Наш край паўстаў й будзе жыць!

*1928 г.* ■

# *Пра Янука Дарашкевіча з Меляшкоў*

Першыя вершы Янука Дарашкевіча з’явіліся ў „Нашай ніве” ў 1909 годзе. Ён падпісваў іх псеўданімам Каршун, а пасля – Янук Д. Пра што былі гэтыя вершы? Найперш – пра жыццё вясковых людзей, а таксама пра каханне:

*Вецер свішча, вецер вые,*
*Гнуцца вербы над вадой.*
*Сэрца стогне, сэрца ные*
*Па дзяўчыне маладой.*
*Ные сэрца, плачуць вочы,*
*Думкі роем мелькацяць...*
*Дзе прапалі ясны ночы?*
*І калі іх прычакаць?..*
*... А цяпер? Цяпер усё іначай:*
*Лісці сыплюцца з дрэўя...*
*І адзін я сохну, плачу*
*Без цябе, ды салаўя.*

Верыцца, што вершы Янука Дарашкевіча будуць сабраны пад адну вокладку і дойдуць да беларускага чытача.

***„Як той сончык,***
***я света хачу…”***

Сёлета спаўняецца 122 гады з дня нараджэння беларускага паэта-дэмакрата Івана Дарашкевіча, літаратурны псеўданім якога Янук Д. Ладзяцца вечарыны, выставы

(на жаль, зборніка яго вершаў так і не ўбачыў чытач). Бераставіччына ганарыцца, што асноўны перыяд творчай біяграфіі паэта звязаны з нашым краем, хаця аб гэтым далёка не ўсе ведаюць.

У „Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва Беларусі” гэтаму паэту прысвечана толькі некалькі радкоў. Адзначаецца, што „…яго творчасць развівалася ў рэчышчы беларускай рэвалюцыйна-дэмакратычнай паэзіі, прасякнутай болем за лёс абяздоленых …” А за гэтым – цэлае жыццё: з яго радасцямі і нягодамі, з „белымі плямамі” і загадкамі ў біяграфіі паэта. А яму споўнілася б сёлета 122 гады…

Газета «Наша ніва», якая выдавалася на беларускай мове з 1905 г. у Вільні, была сапраўднай калыскай паэтычнага таленту многіх пісьменнікаў. Тут друкавалі свае творы Якуб Колас, Янка Купала, Максім Багдановіч і многія іншыя добра і менш вядомыя паэты і празаікі. У 1910 г. менавіта на старонках гэтай газеты пачалі друкавацца вершы, допісы, карэспандэнцыі пад псеўданімам Янук Д. Аднак сапраўднае прозвішча паэта было невядома. Як ні крыўдна, але на доўгі час у гісторыі беларускай літаратуры, як слушна заўважыла беларуская даследчыца Тамара Чабан, ён быў пазбаўлены не толькі імя, але нават і псеўданіма. Творы паэта былі прыпісаны М. Арлу (Сцяпану Пятэльскаму) і подпіс «Янук Д.» лічыўся адным з псеўданімаў С. Пятэльскага. Памылка гэта была «ўзаконена» нават у акадэмічнай хрэстаматыі «Беларуская дакастрычніцкая паэзія» (Мн., 1967). Доўгі час ніхто з даследчыкаў не звяртаў увагі на адрозненне стылю паэтаў і нават на тое, што, як нам удалося выявіць, М. Арол друкаваў у «Нашай ніве» верш «Пясняр» з прысвячэннем яго Януку Д. А менавіта гэта яшчэ раз даказвала, што псеўданім Янук Д. належыць не М. Арлу, а нейкаму іншаму і не менш здольнаму паэту. Бо не мог жа, сапраўды, М. Арол прысвячаць сам сабе свае вершы… Але, дзякуючы намаганням літаратуразнаўцаў Арсеню Лісу, Аляксею Пяткевічу, Юрку Туронку (Беласток), Тамары Чабан, паэту вернута яго імя і пэўнае месца ў гісторыі літаратуры.

Іван Канстанцінавіч Дарашкевіч (Янук Д.) нарадзіўся ў 1890 г. у в.Меляшкі (недалёка ад мястэчка Гарадок) тагачаснай Гродзенскай губерні (цяпер Падляшскае ваяводства Польшчы) у мнагадзетнай сялянскай сям’і. Бацькі Івана мелі 8 гектараў зямлі і 7 дзяцей, сярод якіх Іван быў старэйшы. Пачатковую адукацыю атрымаў у роднай вёсцы, потым вучыўся ў Гарадку, дзе пасябраваў з аднагодкам Сцяпанам Пятэльскім – будучым паэтам М. Арлом. Яны разам вучыліся ў настаўніцкай семінарыі: па сцвярджэнні Ю.Туронка – у Ялоўцы, па сцвярджэнні Т.Чабан – у Свіслачы, якую скончылі ў 1909 г. У наступныя гады Іван Дарашкевіч жыў на Бераставіччыне: настаўнічаў у вёсках Сямёнаўка і Кулі. Працуючы ў апошняй, ён пакахаў мясцовую прыгажуню Кацярыну, якая да ўсяго іншага мела добры голас і ведала шмат народных песень, якія вельмі любіў слухаць і запісваў яе каханы настаўнік. У 1913 г. Іван Канстанцінавіч Дарашкевіч і 18-гадовая Кацярына Маркаўна Буцько пажаніліся і неўзабаве, відавочна, восенню 1913 г. па невядомай прычыне пераехалі ў Літву ў в. Даўкшы каля Панявежыса, дзе малады настаўнік амаль год працаваў у мясцовай школе.

Працуючы ў школах на Бераставіччыне, І. Дарашкевіч, напэўна, выпісваў і чытаў беларускую газету «Наша ніва», у якой друкаваліся ўсе больш-менш значныя пісьменнікі таго часу. Больш таго, можна меркаваць, што менавіта «Наша ніва» аказала істотны ўплыў на творчы працэс Івана Дарашкевіча. Сцяпан Пятэльскі таксама натхняў сябра да дзейнасці на ніве роднай культуры.

З 1909 г. народны настаўнік з Бераставіччыны друкуе допісы і вершы ў «Нашай ніве», і гэта супрацоўніцтва працягвалася да пачатку першай сусветнай вайны. За гэты час газета надрукавала шэраг вершаў Янука Д., у якіх на першым плане было цяжкае жыццё беларускай вёскі («Доля», «Стогн», «З родных абразкоў», «Ганя» і інш.).

Спрабаваў паэт свае сілы і ў інтымнай лірыцы. Гэтыя творы па ўнутранай эмацыянальнасці блізкія да вершаў Я.Купалы, Я.Коласа і іншых паэтаў тых часоў. Разам з тым, трэба адзначыць, паэтычныя творы Янука Д. (Івана Дарашкевіча) вылучаюцца сваім мастацкім узроўнем, непаўторнай індывідуальнасцю, культурай творчасці. Мне пашчасціла з імі пазнаёміцца ў Лонданскай беларускай бібліятэцы імя Ф.Скарыны, гартаючы падшыўкі ўсё той жа самай „Нашай нівы” за тыя гады.

Іван Дарашкевіч шмат і даволі ўдала перакладаў рускіх паэтаў – Лермантава, Нікіціна і іншых, тым самым узбагачаючы стыль і тэматыку сваёй паэзіі.

Працуючы народным настаўнікам на Бераставіччыне (у Сямёнаўцы і Кулях), Іван Дарашкевіч запісваў беларускія народныя песні, якія, па ўсім відаць, ён вельмі любіў і цаніў.

Першыя з іх запісаны паэтам у 1911 – 1912 гг. Стаіць пад імі подпіс: І.Дарашкевіч, в. Сямёнаўка. Побач з тэкстам падаюцца і ноты, што выдае ў настаўніку чалавека музычна адукаванага. Ёсць тут і песні, запісаныя і ў іншых вёсках Бераставіччыны, і ў роднай вёсцы паэта Меляшкі. Яны розныя па зместу і па меладычнай настроенасці: вясёлыя і сумныя, але поўныя пачуцця, энергіі, настрою.

У адной з іх, напрыкдад, маладзіца жаліцца на няўдалае замужжа, а другая песня вельмі пранікнёна і ўзвышана расказвае пра развітанне хлопца з роднымі, любай дзяўчынай перад адыходам на вайну:



**У 1890 г. нар. у в.Меляшкі каля Гарадка на Беласточчыне Іван Дарашкевіч (літаратурны псеўданім Д. Янук, Дзіч Янук), паэт, асветны дзеяч. Выпускнік царкоўна-настаўніцкага вучылішча ў Ялоўцы. Працаваў настаўнікам у Сямёнаўцы ды іншых вясковых школах Беласточчыны ды Гарадзеншчыны. Супрацоўнічаў з „Нашай Нівай". Загінуў на фронце 24.02.1943 г.**

*Ой, там на гарэ,*
*Ой, там на крутой*
*Сівы конь разгуляўся,*
*Малады хлапец, маладзюсенькі*
*На вайну прыбіраўся.*
*Як выбіраўся, то ўсім скланяўся,*
*-Айцу і матулі,*
*А сваёй мілай, наймілюсенькай*
*То найніжай скланяўся…*

Варта зазначыць, што спрабаваў свае сілы паэт і ў прозе. У красавіку 1912 г. рэдакцыя «Нашай нівы» на апошняй старонцы пісала: «Януку Д. «Першыя крокі жыцця» трэба было б паправіць, «Дзве дарогі» надрукуем…».

Янук Дарашкевіч дасылаў у «Нашу ніву» і допісы, карэспандэнцыі на тэму вясковага жыцця. У адной з іх («Наша ніва», 1911, № 5) ён піша аб цяжкім лёсе вясковых жыхароў Бераставіччыны, аб іх цемнаце і прыгнечанасці. У нумары 12-13 ён піша: „У гэтым мястэчку (Крынкі – М.П.) жыве шмат інтэлігентаў, але мала між імі людзей. Мястэчка не мае ніякага духоўнага руху, за ўсё аддуваецца гарэлка і карты. П'юць ўсе пагалоўна. Страшна і сумна робіцца на душэ… Людзі забудуць, што яны – людзі; здабудуць тую вякамі забытую культуру, каторую падарылі ім іх бацькі…" Жудасна становіцца ад гэтых радкоў…

Вядома, што ў 1914 г. паэт сабраў рукапіс сваіх вершаў пад назвай «Абразкі» і даслаў у «Нашу ніву», маючы намер выдаць зборнік асобнай кніжкай. Але зборнік паэта так і не выйшаў у свет. Пачалася першая сусветная вайна, і восенню 1914 г. Іван Дарашкевіч быў мабілізаваны ў царскую армію і накіраваны ў школу прапаршчыкаў. Доўгі час думалі, і гэта сцвярджалася ў друку, што І. Дарашкевіч загінуў. Але пазней выявілася, што паэт выйшаў з вайны жывым. Як сцвярджала яго сястра Люба, непасрэдна пасля грамадзянскай вайны вярнуўся ён разам са сваёй сям'ёй (жонкай Кацярынай і дзвюма дочкамі – Нінай і Людмілай) у родную вёску Меляшкі, якая ўжо ў той час была ў складзе Польшчы. Тут знайшоў разбураную гаспадарку і мізэрныя перспектывы. Тое ж самае было і на радзіме жонкі ў в. Кулі на Бераставіччыне. Польскія ўлады настаўніцкай працы Івану не давалі. Таму праз 2 – 3 гады, ён з сям'ёй выехаў у Савецкі Саюз, стаў кадравым афіцэрам Чырвонай Арміі.

Большую частку жыцця пражыў Іван Дарашкевіч у Варонежы. З Варонежа пайшоў на фронт. Загінуў у баі ў ноч з 23 на 24 лютага 1943 г. каля в. Фецішчава Арлоўскай вобласці. Дом, у якім жылі Дарашкевічы ў Варонежы, быў разбураны ў час ваенных дзеянняў, загінуў увесь рукапісны архіў паэта.

Застаўся толькі верш, а дакладней – тэкст песні «Вперед, волжане», якую напісаў беларускі паэт, савецкі афіцэр 7 снежня 1942 г. пасля паспяховай ваеннай аперацыі. Выходзячы з тэксту, можна меркаваць, што І.К.Дарашкевічу давялося ваяваць і на Волзе.

Знаёмячыся з гэтым артыкулам, у чытачоў можа паўстаць пытанне: дзе і ў якіх беларускіх выданнях друкаваўся Іван Дарашкевіч у міжваенны перыяд? Адказ адназначны – нідзе. І гэта з'яўляецца яшчэ адной загадкай Янука Д. Вось па гэтай, напэўна, прычыне, што ён не падаваў голасу ў беларускім друку, многія даследчыкі беларускай літаратуры не толькі ў 1920-1930 гадах, але і ў пачатку 1980-х гадоў лічылі яго загінуўшым у полымі першай сусветнай вайны. Цяжка сказаць, якія прычыны не дазвалялі Дарашкевічу друкавацца ў беларускіх газетах і часопісах у 1920-30 гг. Паколькі ён быў афіцэрам – можа гэтаму перашкаджалі ваенныя інструкцыі, а можа, знаходзячыся на ваеннай службе, ён вельмі хутка адчуў тую атмасферу падазронасці да беларускай творчай інтэлігенцыі, якая ўжо праяўлялася з боку ДПУ ў 1920-х гадах і перарасла ў масавыя рэпрэсіі ў 1930-х.

У вершы «Сончык» (назва першых веснавых кветак) паэт нібы прадбачыць і свой драматычны лёс, і ахвярны лёс многіх беларускіх паэтаў, якія, нібы веснавыя кветкі, першымі абудзіліся, раскрыліся насустрач новаму жыццю і якім наканавана было загінуць у віхурах войнаў, рэвалюцый, рэпрэсій, не пабачыўшы сваіх кніг, не здзейсніўшы творчых задум.

*Гэтак будзе са мной.*
*Ціхай цёплай вясной,*
*Як той сончык, я света хачу.*
*А як прыйдзе пара,*
*згасне жыцця зара,*
*Як і ён, я навек замаўчу…*

Наш святы абавязак не дапусціць, каб, гаворачы словамі яго верша, «то месца травой зарасло», вярнуць людзям тое, у што паэт «гарачым сэрцам верыў, чым жыў…» – яго вершы...

**Мікалай Пацэнка**

# Echa Ostoi Utraconej

*Eugeniusz Czyżewski*

***35.*** Dnie takie się zdarzały, że i przez cały dzień szum motorów w powietrzu trwa. Sześć szturmowców i trzy myśliwce na front i powrót po około czterdziestu minutach. Powroty mało kiedy w szyku są, często pojedynczo tuż nad ziemią, to jakby ucieczka przed prześladowcą. Kapitan mówi, że lotnik amunicję wystrzelał i teraz kuropatwą jest. Jedyny ratunek to z widoku zejść i pod osłonę artylerii przeciwlotniczej zdążyć. Za kilkanaście dni samoloty te bazować będą na lotnisku tutejszym, do prac pomocniczych pośle sołtys chłopaków ze wsi, właśnie tych, co las za Niemca rąbali, dodatkowo tura do wożenia wody też staje. Polecenie pracy jakaś władza z miasteczka wydała, niby tam władze gminy są. Chłopaki przy budowie ziemianek pracują, głównie łopatą, bo szalunek wojsko wykonuje, a gdy całodzienne loty bojowe samoloty mają, wieśniacy przy uzbrajaniu samolotów też są, składają taśmy do działek i karabinów maszynowych, pomagają przy podwieszaniu bomb.

Robota darmowa, ale handel umożliwia. Fufajki, buty, watowane spodnie, narzędzia, ale i benzyna, sól, a nawet drożdże to ekwiwalent za dostarczony samogon. Każdy dzień po pracy coś się niesie, więc niezupełnie darmowe. Ciekawość też zaspokojona. Samolot każdy już obejrzał, lotników z bliska poznał. Piloci to przeważnie młodzież dwudziestoletnia, chłopcy i dziewczęta. Wiele samolotów podziurawionych z wypraw powraca, a ekipa remontowa natychmiast go obsiada. Pilot z samolotu do kantyny idzie, a tam wódka, kiełbasa, czekolada, papierosy, słowem wszystko najlepsze. Mechanik remontu dogląda i samolot do walki wyposaża. Dobrze być lotnikiem, to nie zmęczona piechota, głodna i brudna.

Bania czynna, bielizna czysta, na stołówce talerze i widelce, wieczorami zabawa i film. Dziewcząt w mundurach pełno, są przy radiostacjach, służbie zdrowia, żywieniu, pralni, ale i przy remontach maszyn.

Lotnicy giną. Na lotnisku jest tablica „Doska poczota". Zdjęcie lotnika, jego czyny bojowe i miejsce strącenia. Wylotów bojowych, bo tak to nazywają niektórzy, mieli po kilkadziesiąt, inni kilkanaście, a był i taki lejtienant Morozow, co zginął w drugim locie, taki chłopaczek, kędzierzawy blondynek. Nad Narwią giną, to tam latają, lot niecałą godzinę trwa, a jak dużo w tym czasie lotnik przeżywa. Wylot z miejsca bezpiecznego, pobyt w rewirze śmierci, którą sam też przyniósł i odebrać może, no i powrót do przyjaciół, zanim wróci na lotnisko już wiedzą, w jakich tarapatach tam byli i czego dokonali, powitanie, gratulacje. Po tych, co zginęli, dziewczęta łzy ocierają, bo miłość tu kwitnie, żyją śmiercią ponaglani.

Kino to nowość dla młodzieży wiejskiej. Nikt z nich przedtem żadnego filmu nie oglądał. Ludzie starsi, co w Rosji w miastach mieszkali, kino nieme widzieli. Żołnierze polscy też filmy oglądali, starsze roczniki nieme, młodsi dźwiękowe, ale ich żony i dzieci znały je tylko z opowiadania. Teraz wieczorami wieś na filmy chodzi pomimo trudu dnia całego. Kino w sadzie Adamka, gospodarza na wybudowaniu, wieczory pogodne, wstęp wolny. Tam ekran duży, do pni lip starych przymocowano, wszyscy na ziemi siedzą, widać i słychać dobrze. Są filmy i kroniki Stalina, Churchilla, Roosevelta i walki, i boje pokazują. Na jednej z takich kronik widziano polskiego generała Sosnkowskiego. Generał ten coś złego o Powstaniu Warszawskim wygłosił. W ten sposób dowiedziano się, że w Warszawie Polacy walczą, ale Wódz Naczelny tego nie pochwala. Wiadomość tę wieśniacy na różne sposoby oceniali. Ważne było to, że w Anglii Wódz Naczelny ma pretensje do tych, co w kraju wojnę wywołali. Nikt tu przedtem, że Warszawa walczy, też nie wiedział.

Gazety wojacy na lotnisku mieli, ale chyba nie do czytania, a do machorki. Wyjątkowo wieśniacy gazetę za wódkę wymienili, ale też nie dla czytania, a na skręty do tytoniu. W gazetach tych o powstaniu w Warszawie nic nie wyczytano, nie pisywano też o Wojsku Polskim na zachodzie. Owszem był artykuł i fotografia, jak Wojsko Polskie z Pragi Niemców wypędza. Polski Wódz Naczelny w Anglii i Wódz w Lublinie, który właśnie mobilizację pięciu roczników ogłosił, to o jednego wodza za dużo.

Praporszczyk Baj orzekł, że jak jest dwóch wodzów z armiami, a w kraju jest jeszcze jakiś trzeci wódz, który powstanie zrobił, to ładu tu długo nie będzie. Mobilizację ogłoszono, ale nikt ze wsi na nią się nie stawił. Jak trzech wodzów jest, to dlaczego słuchać tego, co na wojnę bierze i kto wie, co później z tego wyniknie.

Sołtys syna swego też nie posyła, sołtys niemiecki też nie idzie. Niewielu jest we wsi tych do wojska wołanych, bo na roboty w Niemczech ich wypędzono, ale są, z dziesięciu ich jest. Teraz wszyscy jakby dezerterzy są, z oczu ludziom zeszli. Wieś władzy nie słucha, koni na mobilizację też nikt nie poprowadził i gospodarz jakby bat nad sobą czuje. Wiadomo wojna, prawa w lufie karabinu siedzą, a wieśniak ma tylko słuchać i oddawać na każde zawołanie synów, konie, żywność.

Koni we wsi już jest sporo, z sołdatami na samogon wy-

mieniono. Jest kilka niemieckich koni wojskowych, olbrzymy z wyskubanymi ogonami i gzów opędzać nie mogą, ciężkie, w glebie grzęzną, pomimo że mają kopyta jak patelnie, pracy na roli nie znają, komend też nie, ale są, wóz i pług jest komu ciągnąć. Takiego bogactwa władzy pokazać nie można, bo natychmiast zabierze, więc i konie jakby na nielegalnym stanie są.

Zboże zebrano, w snopkach w kłosach trzymane jest. Omłoty tylko na potrzebę bieżącą, bo nadjechać mogą i ze spichlerza zabiorą. Mowa o dostawach zboża i mięsa jest, ale nikt tych poleceń nie wykonuje. Sołtys też kontyngentu nie oddaje, chociaż obowiązek dostaw formalnie ogłosił.

Armia Czerwona, ta,co w lesie stoi i w okopach ćwiczy, prosi wieś, by parę ton ziemniaków jej wypożyczono, na wieczne oddanie. Dwa samochody ciężarowe przyjechało, odjechali ze skrzyniami pełnymi ziemniaków, ludzie dali po parę koszy kartofelek, bo jak ludzie proszą, to widocznie nie mają. Po paru dniach ci, co kartofle pożyczyli, z prośbą o mięso przyszli, ale mięsa nie otrzymali. W tym roku wieś ograbiono, co prawda Niemiec to uczynił i ostrzał artyleryjski, ale chłop jedno mienie ma i bez pytania go rabowano. Gospodarze uważali, że podatek za 1944 r. z nawiązką zapłacili, a że zabrał go poprzedni władca, to nie ich wina. Oficer sowiecki uważa, że wieś nie jest biedna, bo i krowy widzi, i owcę, i świnkę, więc mięso jest, ale skąpią dla ludzi, którzy za nich walczą. Sołdaty często chłopów pytają, dlaczego tu mobilizacji nie prowadzi się, ludzie zdolni do wojska żyją we wsi i z oddali na wojnę patrzą. W Sojuzie wszystkich na wojnę pobrali, co karabin zdolni nosić i coś tam widzą, już siedemnastoletnich chłopaków w mundury ubrali.

Wojak, co ziemniaki do skrzyni samochodu wsypał, praporszczyka Baja rozpoznał. Był on we wsi 1937 r. jako żołnierz polski, kwaterował wraz z drużyną w mieszkaniu Baja, w 1939 r. wojował. Do domu w okolicy Prużan wrócił, a teraz od początku sierpnia w Armii Czerwonej, w tych samych co w 1937 r. okolicach ćwiczy. Żona na wsi sama, z małymi dziećmi żniwa robiła, bo on tylko sianokosy zdążył zrobić. Krowa i owca będzie siano miała. Sołdat może i dalej by mówił, ale oficer jechać rozkazał. Baj zdążył mu tylko wiązkę liści tytoniu wręczyć, bo wojak ten jakby stary znajomy, chociaż go wcale nie rozpoznano. Mówi, że kwaterował, to chyba prawda.

We wsi wielu chłopaków w fufajkach, spodniach, butach Armii Czerwonej ubranych. W dniu świątecznym, gdy tak przystrojeni z nabożeństwa wracali, oficer sowiecki ich za dezerterów swojej armii uznał, a gdy mu wytłumaczono, że ubrania to wynik handlu uczciwego, od złodziei wyzwał. Powtarzał: „adni wojujut, drugije worojut”, czyli jedni walczą, inni kradną, a kto od złodzieja kupuje, też złodziejem jest i działa na szkodę armii. Szczęściem władzy on tu nie sprawował, bo by mogło różnie być. Razem z oficerem kilkunastu młodych wojaków, takie chłopaczki, niektórzy niżsi od karabinu z bagnetem, widać że w biedzie dorastali, to wojska programu ZSRR. Tę młodzież na granicy widziano, gdy jeszcze wolno było siano z łąk nad Swisłoczą uprawiać. To oni bagnetem siano pruli, gdy wóz na granicę wjeżdżał, ich ostre postępowanie granicę realną robiło. Teraz już granica dla cywili zamknięta, drogi przekopane, tylko szosą grodzieńską wojsko jedzie

Polskiej służby granicznej nie ma, sam pogranicznik sowiecki przebieg granicy ustanowił. On też jej pilnuje, toczy boje z tymi, co przez granicę nielegalnie idą i często aż do wsi naszej po śladach ściga, a bywa i tak, że za serwitut do lasu wchodzą. Mówią, że granica Sojuza to „Swiatoje dieło”.

*Cdn* ■

# Крышынкі

## *Васіль Петручук*

***53**. Успаміны сабачкі па клічцы Бурык* *(3-я частка)*. Не магу ж я, сабака, ведаць, колькі я ўжо ў іх быў, але ведаў, што мне вельмі там надаела з імі гуляць з мусу, гэтая ежа і коцік, які і такой мне неаднойчы не дазволіў есці. А найболш я сумаваў па маме і гэта выклікала маё частае енчанне. Я драпаў за парог і як умеў так пішчаў, каб мяне аднеслі да дамы. Я думаў, што пашкадуюць. Але замест таго адно з дзяцей маіх гаспадароў адкінула мяне нагой пад стол. Я ўпаў і яшчэ гучней заплакаў ад жалю, а яны мяне назвалі непаваротлівым і смяяліся. А той, што ўзяў мяне ад мамы сказаў: „Нічога, я з яго зраблю такога сабаку, што ядрытваюкорань!” Мне зноў стала страшна, але чамусьці коцік да мяне быццам бы ўсміхнуўся; мо цешыўся, што абмануў мяне ў малацэ, а мо ўсміхаючыся думаў: „Прывыкнеш, дурню, калі я быў маленькім, мяне таксама мучылі, але я на ежу не крывіўся так, як ты!”. Адзін хлопчык, які сядзеў на падлозе і чагосьці плакаў, узяў мяне на рукі і пагладзіў. Але яго-ная мама, як апараная, падскочыла да яго, трахнула па галаве, а мяне вырвала з ягоных рук і шпурнула пад стол. Я шлёпнуўся жыватом, аж забалела, але хутка зразумеў, што трэба быць ціха, бо і мяне могуць набіць. Потым падумаў сабе з нейкай надзеяй, што дачакаюся да цямна і зноў паспрабую ўцячы да мамы, якая напэўна плача па мне і выглядае... Але як жа я пералезу такі высокі парог, які вунь там ляжыць? Мо хто вынясе мяне на двор, каб праветрыўся, тады я вазьму і ўцяку! Такая думка нават і суцешыла мяне,

бо ведаў, што калі ўцяку дык і маму ўбачу, і сястрычку паліжу з уцехай. А тая, якой я найбольш баяўся, раптам спыталася: „ А дзе ж вы гэтага свайго смурода падзенеце нанач?". А той, што мяне нёс адказаў: „Пакуль што будзе ён начаваць у сенях, а пасля зробім яму буду. Цяпер галоўнае – яго ахрысціць!"

Жанчына, якая цягнула гаршчок з печы аж засапла ад злосці і майго гаспадара назвала дурнем, сказала: „Калі ты бачыў, каб сабак хрысцілі!?" А ён адказаў: „Ніякіх хрысцін не будзе, бо ў царкву з кумамі яго ніхто не панясе, але трэба назваць яго нейкім Рэксам або Бурыкам, каб ведаў, якое ягонае імя і слухаўся, калі яго будзем клікаць". Дзяўчынка пляснула ў далоні і сказала, каб назваць мяне Бурыкам, так і засталося.

Іхнія „ласкі" так мяне ўжо замучылі, што я толькі лежачы прабаваў цапнуць каго за руку. Яны мяне ўжо „хрышчанага" рвалі за вушкі і дагрызалі: „Бурык, не дайся!". Ад гэтага ўсяго я аж змачыўся, бо не мог вытрываць. Тады старая жанчына ўзяла мяне за шыю і зноў носікам чамусь па тым мокрым церла. Пасля выкінула мяне ў сені, і я не ведаў, што мне рабіць, бо там было холадна і цёмна. Пачаў я нюхаць і знайшоў нешта мякчэйшае ад халоднага глінянага току (цяпер ведаю, што гэта былі мяшкі). Улез я між іх і ціхенька дрыжаў. А ўжо потым, калі перасталі брынчэць вёдрамі, перасталі бляяць авечкі і ўсё неяк заціхла, я спужаўся адзіноцтва, але і есці захацелася. Здагадаўся, аднак, што няма выхаду, – заціснуўся глыбей пад мяшок ды вырашыў задрамаць, а і праспацца.

Раптам учуў нібы чыйсьці голас, або мне пачало ў сне нешта маячыць, што нехта кагосьці кліча. Выняў я носік з-пад жывата і наставіў вушы... Так, гэта голас маёй мамы! Яна плакала і клікала мяне быццам бы ведаючы, што я галодны. Я выкарабкаўся з-пад мяшка і давай на ўсе лады сваёго голасу паведамляць маму, што я тут, у сенях чужой хаты, але жывы, адно што галодны і не магу выбрацца да яе, і што баюся, і што вельмі сумую па ёй! Я проста ведаў, што мама мяне чуе, аднак не можам сустрэцца, бо паміж нам сцяна. Давай я з усёй сілы дзерці за дзверы, каб зрабіць у іх хаця б зусім маленечкую дзірачку, каб убачыць маму; мо стаіць для парога за дзвярыма і таксама прагна чакае нашай сустрэчы. Як яна сюды прыбегла? Мо ланцуг парвала? А што з маёй сястрычкай?

Але, на жаль, ніхто не зарэагаваў ні тут на маё пішчанне, ні там на маміна; людзі глухія на чужы плач і гора, ім толькі сваё баліць. У іхнім моцным сне нават не прыснілася, што нехта пакутуе пад іхняй уладай, ды з абавязкам сцерагчы іхняе дабро ўдзень і ноччу за нейкую смярдзючую пахлёбку раз у дзень. Яны сабе спяць, а сабакі мучацца, будучы часта разумнейшымі і лепшымі, бо вернымі чым іхнія гаспадары.

Мне проста не верыцца, што маё скавытанне не выклікала ў гаспадароў ніякай літасці, на якую я, маленькае шчанё, з такім даверам спадзяваўся. Я думаў і аб тым, што маё скавытанне давядзе іх да такой злосці, што нехта ўстане з бярлогі і вышпурне мяне за парог, каб даў ім спакойна спаць, а для мяне быў бы гэта адзіны ратунак.

Калі мне ўжо забалела горла ад віску і кіпці ад драпання, а сэрца залілося крывёю ад жалю, што не магу вырвацца з гэтых праклятых сеняў і ўцячы да мамы, якая напэўна б'е ў ланцуг, каб парваць яго або ашыйнік ды выратаваць мяне з няволі, я пачуў, як адчыняюцца хатнія дзверы. Выйшаў да мяне хлопчык, які не рваў мяне за вушы. Я ўцешыўся, бо па сваёй сабачай наіўнасці падумаў пра ратунак, якога чакаю. Хлопчык узяў мяне на рукі ды пачаў супакойваць: „Не пішчы, дружок, бо сабе бяды наробіш. Да мамы і так цябе ніхто не пусціць, а набіць могуць, калі разбудзіш маю маму. Мы з табою маем аднолькавае шчасце, цябе забралі ад тваёй мамы, а маю ад мяне смерць забрала, калі я быў такі маленькі, як цяпер ты. Толькі табе і так лепш, хаця мучышся, бо вас, сабак, усе любяць, а мяне ніхто не любіць, ды мама таўчэ калі хоча і за што хоча, і я сплю на голай лаўцы. Думаеш, чаму я да цябе выйшаў? Бо толькі я пакуль што чую твой плач стоячы за калыскай, а яны ўсе спяць бы пабітыя. Калі будзеш піскам дапамагацца ежы, то і ты дастанеш, бо мама вельмі не любіць раздаваць хлеб, а тата маўчыць. Памятай, каб нават


Фота Міры Лукшы

здыхаў ад голаду, не прасі есці, бо тая мая мама, што выкінула цябе з хаты, будзе цябе таўчы не толькі за тое, што насікаеш, але і за ежу. Ты мусіш быць злосны на чужых і іх кусаць, але ўдома маеш усім дагаджаць, быць вясёлым ды есці тое, што табе дадуць".

Я дрыжэў у хлопчыка на руках і слухаў, што ён мне гаворыць, ды час ад часу лізноў яму бараду, бо мне зрабілася шкада і сябе і яго, але найгорш – мамы, бо яна плакала, і я гэта чуў. Калі хлопчык мне гаварыў, што ў ягонай хаце мама дае малако толькі малым дзецям, то я сабе падумаў, што і я малы, дык павінна і мяне яна карміць малаком. Пачаў я вярцецца ў яго на руках і папіскваць, каб мяне пусціў на панадворак, але хлопчык не адчыняў дзвярэй. Тады я са злосцю пачаў вырывацца з рук, ды ён мяне не пускаў. Пачалася суматоха, у час якой удалося ме дастаць зубамі ягоны палец ды з усяе сілы сціснуць. Хоппчык крыкнуў, але з рук мяне не выпусціў. Ён зразумеў, што калі я вырасту, буду мець мацнейшыя зубы і змагу ўкусіць больш балюча чым сёння, і з ціхай уцехай сказаў мне, што я малайчына і не дам над сабой знуткавацца... *(Працяг будзе)*

# *Успаміны з 1976 г.*

***2***. Ад сабора павезлі нас дарогаю на гару, на якой у месцы, дзе зліваюцца рэкі Арагвы і Куры, стаіць старажытная царква, акружаная абароннай сцяной, Джвары, што значыць крыж. Калі мы ў ёй былі, царква была вельмі знішчаная, ніхто ёю не апекаваўся. Аб ёй успамінае рускі паэт Лермантаў у сваёй паэме "Мцыры". Недалёка ад яе стаіць яго помнік. Аб гэтай царкве я напісаў верш „Джвары", які ўвайшоў у мой зборнік вершаў „Эцюды падарожжа" і на вокладцы гэтага зборніка я паказаў, як выглядаў тады гэты храм. Цяпер яго грузіны адрэстаўравалі і там адбываюцца набажэнствы.

Пасля экскурсіі і абеду мы мелі вольны час, а пасля вячэры агледзелі ў тэатры грузінскі ансамбль, яго песні і танцы.

16 чэрвеня пасля снедання паехалі мы "Грузінскай ваеннай дарогай" ў Арджанікідзе (цяпер Уладзікаўказ). Мелі мы праехаць аўтобусам 208 км праз Каўказскія горы. Праехалі мы паблізу Мцхеты і Джвары, дзе мы ўчора былі. Я сядзеў у аўтобусе з правага боку і бачыў глыбокую прорву, дзе плыла ўнізе відочная як вузкая стужка рака Арагва. Калі б наш аўтобус упаў у гэту прорву, усе б мы згінулі. Аднак нідзе не бачыў я ўнізе разбітай машыны, як калісь у Югаславіі ля шашы ўздоўж Адрыятычнага мора. Ехалі мы павольна і асцярожна падымаючыся ўверх. Затрымаліся ля вёскі Анануры, дзе пабачылі замкавы ансамбль. У крэпасці была нейкая разбураная грузінская царква. У храме мы пабачылі савецкія адносіны да старых фрэскаў. Былі яны брудныя, пацарапаныя. Цяпер іх аднавілі. Пасля затрымаліся мы на нейкі час ля Крыжовага перавала (2384 м), дзе ляжаў яшчэ снег. Потым мінулі мы раку Арагву, павярнулі направа і пачалі ехаць уздоўж ракі Церак. Высока з левага боку бачылі мы доўгі час гару Казбек (5047 м.) з пакрытай снегам вяршыняй. Затрымаліся мы на кароткі час ў Казбегі і паехалі ўніз па даліне ракі Церак да Дар'ялбскай цясніны. Позна пасля поўдня прыехалі мы ў Арджанікідзе ў гасцініцу „Імперыял", дзе атрымалі пакоі і абед. Да вячэры мелі мы вольны час і самі пагулялі па вуліцах сталіцы Паўночнай Асецінскай Аўтаномнай Рэспублікі.

17 чэрвеня сустрэўся я пры сняданні ў рэстаране гасцініцы з вельмі прыгожай маладой дзяўчынай-асецінкай, якая была экскурсаводам нашай групы. Яна ведала толькі рускую мову і трэба было мне пасля ў аўтобусе польскім турыстам перакладваць яе словы на польскую мову. Яна мне сказала, што асецінцы ўсе праваслаўныя ды ў Арджанікідзе жывуць і армяне, і іншыя каўказскія народы, якія з'яўляюцца мусульманамі. Павезла яна нас да абеда ў горы і паказала нам у пячорах пахаваных старых жыхароў гэтых мясцін. Пасля абеда павазіла нас па горадзе, паказала нам асецінскую праваслаўную цакву з 1860 г., армянскую царкву з 1868 г. і суніцкую мусульманскую, вельмі прыгожую, мячэць, з якой тады зрабілі музей. Завезлі нас у месца, да якога ў 1942 г. дайшлі немцы. Горад Арджанікідзе яны не маглі захапіць.

У 1784 г. паўстала тут руская крэпасць Уладзікаўказ і ад яе таксама назвалі горад, і толькі ад 1931-44 гг. і ад 1954 горад называлі Арджанікідзе, ад 1944 да 1954 г. горад меў назву Джауджыкау. І ў 1990 г. вярнулі яму назву Уладзікаўказ.

18 чэрвеня экскурсавод завезла нас пасля снедання ў горад Нальчык, у сталіцу Кабардына-Балкарыі. Праязджалі мы тады па дарозе праз горад Бяслан, аднак у ім не затрымоўваліся. Нальчык – гэта невялікі горад, у перакладзе азначае малую падкову. Нальчык 28 кастрычніка 1942 г. занялі немцы і акупавалі яго да 3 студзеня 1943 г. Экскурсавод нам раскала, што ў сувязі з тым, што многія жыхары Нальчыка супрацоўнічалі ў часы нямецкай акупацыі з немцамі, па загаду І. Сталіна ўсіх жыхароў горада 8 сакавіка 1944 г. вывезлі 14 эшалонамі ў Сібір і ў Казахстан. Вярнуліся яны назад пры М. Хрушчове. Расказала нам, што ў 1928

г. разбурылі ў Нальчыку прыгожую праваслаўную царкву Прападобнага Сімяона Стоўпніка і пасля далі веруючым на іх моцнае патрабаванне нейкі малы домік, дзе яны маглі маліцца. Нальчык – курортная мясцовасць. Паказалі нам санаторыі і нейкі краязнаўчы музей. Абед з’елі мы ў невялікім рэстаране ў Нальчыку і наша група паехала, развітаўшыся з экскурсаводам, у Пяцігорск. Прыехалі мы пад вечар аўтобусам у Пяцігорск у гасцініцу „Інтурыст”, там атрымалі пакоі і да вячэры мелі вольны час.

19 чэрвеня новы экскурсавод, таксама дзяўчына, з Пяцігорска паказала нам горад, музей М. Лермантава, дом у якім ён нейкі час жыў, месца, дзе згінуў ён на дуэлі, яго помнікі, прыгожы парк „Цветнік”, пячору, альтанку ,,Эолаву арфу”, дзе вецер калісь іграў на арфе, многа санаторыяў, возера Тамбукан і іншыя месцы. Сваю назву горад Пяцігорск атрымаў ад гары Бештаў, што ў прераkладзе з цюркскай мовы азначае пяць вяршынь, бо гара Бештаў мае пяць вяршынь, а самая высокая (993,7 м) называецца Машук. З Пяцігорска добра відна гару Эльбрус.

Экскурсавод сказала, мне, што пасля абеду група паедзе ў Кіславодск і я па тэлефону пазваніў да знаёмай з экскурсіі ў Польшчы, Ніны Мухаевай, што буду з экскурсіяй у Кіславодску. Яна мяне паведаміла, дзе будзе мяне чакаць.

Кіславодск ляжыць на вышыні 800-1069 м, і з’яўляецца горадам санаторыяў і дамоў адпачынку. На аўтобусе экскурсавод паказала нам будынкі цікавых курортаў, „Нарзанную галярэю” з „Кіпячай студняй”, адкуль выплывае нарзан (мінеральная вада), ,,Мядовыя вадаспады”, дзе вада падае з вышыні 18 м. На канец экскурсіі на „Курортным бульвары” я папрасіў экскурсавода, каб звезла групу ў гасцініу на вячэру і на ноч. Я выйшаў з аўтобуса і сустрэўся з Нінай Мухаевай. Яна завяла мяне да сябе на кватэру, дзе пазнаёміла са сваёй маткай і сынам і пайшлі мы на шпацыр у парк. З парку бачылі мы добра гару Эльбрус, яе белую снежную папаху. Калі мы зноў вярнуліся на кватэру Ніны, быў ужо яе муж. Правялі мы прыемна разам вечар і я пераначаваў у іх у другім пакоі, а ранкам 20 чэрвеня, пасля снедання, Ніна адвезла мяне са сваім сынам электрычнай чыгункай у Пяцігорск. Прыйшлі мы ў гасцініцу, калі група польскіх турыстаў была на снеданні.

Пасля снедання група выехала аўтобусам на аэрадром у Мінеральныя воды і самалётам паляцелі мы ў Кіеў. У Кіеве з аэрадрома завезлі нас ў гасцініцу „Інтурыста” „Славутыч”, там атрымалі мы пакоі і сышлі на абед уніз у рэстаран. Пасля да вячэры мелі мы вольны час.

21 чэрвеня пасля снедання завезлі нас у Сафійскі сабор, які быў пабудаваны па загадзе князя Яраслава Мудрага. Савецкая ўлада ў 1934 г. адабрала яго ад праваслаўнай царквы і зрабіла з яго музей-запаведнік. Пабачылі мы высокую званіцу і ўнутры царквы прыгожыя мазаікі святых і вялікую мазаіку Багамацеры–Араніі. Пабачылі мы бюст князя Яраслава Мудрага, які быў зроблены на падставе яго чэрапа. Сабор у 1596 г. пад націскам польскага караля Зігмунда III Вазы захапілі ўніяты ды ў 1630 г. адабраў яго ад іх праваслаўны мітрапаліт Пётр Магіла. Сафійскі сабор я бачыў раней, у 1970 г., калі ехаў з жонкай у Адэсу, аб чым я пісаў у сваіх успамінах.

Пасля паехалі мы ў Кіева–Пячэрскую лаўру, да 1930 г. праваслаўны манастыр. Савецкая ўлада адабрала яго ад Царквы і зрабіла з яго музей-запаведнік. Перад уваходам у калідоры са святымі мошчамі пабачылі мы вялікія карціны Страшнага Суда. Пасля аглядзелі мы сотні святых мошчаў, нейкія ляжаць ужо некалькі стагоддзяў і не разбураюцца. Экскурсаводка гаварыла нам, што прычынай гэтаму з’яўляецца адпаведняя глеба пачор у якіх ляжаць святыя астанкі. На абед вярнуліся мы ў гасцініцу ў рэстаран. Пасля абеда павезлі паказаць нам вуліцы Кіева такія як Крашчацік і іншыя ды працуючы Андрэеўскі праваслаўны сабор. Пасля вячэры, калі я ішоў у свой пакой, папярэдзілі мяне, што быў тэлефон, якім паведамілі, што давязуць да нас тры асобы. Я быў упэўнены, што прывязуць да нас раненых, якіх мы аставілі ў бальніцы, калі пакідалі Ерэван. Я папрасіў толькі, каб мяне разбудзілі, калі іх прывязуць і пайшоў спаць. Аднак ноччу ніхто не прыехаў.

22 чэрвеня, калі група прыйшла ў рэстаран на снеданне, нікога да нас не давезлі. І толькі а гадзіне 11-ай пад’ехаў аўтобус з паранемі. Мужчына з забінтаванай галавой і доктарка Сьнежык пайшлі ў свае пакоі, а трэцюю жанчыну з-пад Варшавы прынеслі ў пакой на насілках. Яна не магла хадзіць. Я тады хутка пазваніў у польскае пасольства ў Кіеве, каб яны паведамілі „Орбіс” у Варшаве, што мусяць прыслаць мне пад наш цягнік у Варшаве карэту хуткай дапамогі, якая магла б яе адтуль завезці ў бальніцу ў яе горад пад Варшавай.

Пасля абеда завезлі нас на чыгуначны вакзал і далі нам спальныя вагоны, у кожным купэ было па 4 месцы. Параненую прынеслі ў купэ цягніка і паклалі яе на ніжнюю полку. І так мы паехалі ў Варшаву.

23 чэрвеня праехалі мы спакойна граніцу; ні савецкія, ні польскія мытнікі не патрабавалі ў нікога з групы паказваць багаж. Ранкам мы з’явіліся на варшаўскім вакзале. Аказалася, што па параненую прыехаў з яе горада лекар з самаходам хуткай дапамогі і чакаў яе. І тады раптам параненая сказала, што яна хоча, каб яе завезлі на аперацыю ў варшаўскую бальніцу, бо яна лекарам са свайго горада не давярае. Я развітаўся з групай і вярнуўся да параненай і папрасіў шафёра і лекара з хуткай дапамогі з яе горада, каб завезлі нас у варшаўскую бальніцу па вул. Ліндлея. Там пачаткова не

хацелі яе прыняць, бо яна з іншага горада, ды яна пазнала там нейкага знаёмага ёй лекара, што праходзіў, бо яна таксама была лекарам, і ён памог ёй, і яе прынялі ў бальніцу. Тады толькі я мог вярнуцца дамоў, раней паведаміў па тэлефону маю жонку Ніну аб усім, што здарылася і што я чакаю ў бальніцы і хутка прыеду дахаты. На наступны дзень я перадаў у „Орбісе" пад пратакол рэчы і грошы забітай Софіі Рынгман і зрабіў справаздачу з экскурсіі. Як я даведаўся ў „Орбісе", труну забітай прывезлі ўжо даўно самалётам у Варшаву і ўжо яе пахавалі, калі мы былі ў СССР.

Калі мы былі на экскурсіі, 8 чэрвеня Э. Герак паехаў у Бон і нармалізаваў адносіны між Польшчай і Заходняй Германіяй. Быў ён там з візітам да 12 чэрвеня.

6 чэрвеня СССР выслаў ракету „Саюз" 21 з касманаўтамі Віталіем Жлобавым і Барысам Валынавым на касмічную станцыю Салют-5; яны былі там 49 дзён, да 24 жніўня.

Калі я вярнуўся з экскурсіі, 24 чэрвеня ў Сейме прэм'ер Пётр Ярашэвіч аб'явіў праект павышэння цэн на прадукты харчавання: цэны на мяса і мясныя прадукты павысілі на 69%, на масла і сыры на 50%, на цукар на 100%, на рыс на 150% і на гародніну на 30%. Усе працуючыя мелі атрымаць павышэнне зарплаты на 20%, калі хто больш зарабляў, тым больш атрымаў бы грошаў павышэння заробкаў.

На вестку аб павышэнні цэн у прамысловым прадпыемстве „Лучнік" у Радаме пачаўся пратэст рабочых. За імі пайшлі другія прадпрыемствы. Рабочыя з прадпыемстваў выйшлі ў горад на дэманстрацыю. А 11 гадзіне перад будынкам ВК ПАРП сабралася блізка 4 тыс. пратэстуючых. Рабочыя дамагаліся адмены павышэння цэн. Улада, аднак, маўчала. Тады а 14 гадзіне натоўп рабочых увайшоў у будынак і пачаў яго нішчыць. З пакояў выкідвалі партрэты Леніна, з даху сарвалі чырвоны флаг і павесілі бела-чырвоны. Пасля будынак падпалілі і зрабілі блакаду вуліц, каб не даехала пажарная каманда. Пачаліся вулічныя баі рабочых і студэнтаў з ЗОМО да 21 гадзіны. А гадзіне 20-ай улада адмяніла павышэнне цэн. У час баёў згінула тры асобы, 198 асоб было параненых. Міліцыя затрымала 634 асобы, засудзілі на турэмнае зняволенне 8 асоб ад 8-мі да 10 гадоў, 11асоб -- ад 5 да 6гадоў, а 6 асоб ад 2 да 4 гадоў. Матэрыяльныя страты выцэнілі на 77 мільёнаў злотых. Было спаленых 5 грузавікоў, 19 легкавых аўтамабіляў, пажар пашкодзіў будынак Ваяводскага камітэта ПАРП. Улады пачалі прапагандную кампанію асуджэння пратэставаўшых, назвалі іх „радомскімі зваднікамі".

Страйкавалі таксама рабочыя ў Урсусе ля Варшавы і ў Плоцку. У ліпені ўвялі картачкі на цукар: можна было купіць толькі кілаграм цукру ў месяц на асобу.

2 ліпеня наступіла афіцыйльнае аб'яднанне Паўночнага і Паўднёвана В'етнама.

Вайна, якую пачалі ЗША ад 1963 г. з дапамогай Паўднёваму В'етнаму і ад 2 сакавіка1965 г. страшнымі бамбёжкамі Паўночнага В'етнама і атакамі 536 тыс. амерыканскіх салдатаў у 1968 г прынесла паражэнне амерыканцам. Амерыканцы ганебна выйшлі з В'етнама і аддалі Паўднёвы В'етнам у рукі паўночнав'етнамскіх камуністаў. Выйшлі таксама з Лаосу і Камбоджы. ЗША страцілі ў вайне 55 тыс салдатаў забітымі і 300 тыс. салдатаў параненымі і амаль 100 самалётаў.

18 ліпеня ў Ніццы ва Францыі аграбілі банк, украўшы 6 млн. фунтаў штэрлінгаў.

21 ліпеня ірландскія баевікі забілі англійскага пасла ў Ірландыі Крыстафэра Іверта-Бігса.

28 ліпеня ад землятрусу ў Таншане ў Кітаі згінула 650 тыс. людзей.

9 жніўня савецкая аўтаматычная міжпланетная станцыя „Луна" 24 даляцела да Месяца, прызямлілася на ім 18 жніўня, забрала з яго з глыбіні 2 метраў 170 грамаў глебы і 22 жніўня вярнулася на Зямлю.

8 жніўня я атрымаў з „Орбіса" праграму, каб прыняць у Любліне савецкую турыстычную групу і давезці яе да Вроцлава, таксама як 18 мая. Ды цяпер трапілася мне група армян, якім удалося правезці праз граніцу некалькі скрынак армянскага каньяку. Гэтая група не вельмі цікавілася турыстычнымі аб'ектамі ў Польшчы, а гандлявала рознымі прывезенымі з сабою рэчамі. У Кракаве не захацелі ехаць у шахты солі ў Вялічку, а хацелі мець вольны час. Кіраўнік іх групы падпісаў мне згоду, што група адмаўляецца ад экскурсіі ў Вялічку і я адпусціў у Кракаве польскага экскурсавода, які меў нас завезці ў Вялічку і паказаць горад. Экскурсаводам была дзяўчына. Былі мы толькі ў музеях Майданка і Асвенціма і пабачылі горад Люблін. Нават не ўсе ездзілі аўтобусам па Вроцлаве. 13 жніўня вярнуўся я з Вроцлава дамоў.

9 верасня памёр у Кітаі Мао Цзедун, кіраўнік дзяржавы і КПК, а 7 кастрычніка арыштавалі яго жонку- ўдаву, бо яна захацела захапіць уладу ў „бандзе чатырох".

15 верасня СССР выслаў касмічную ракету „Саюз 22" з касманаўтамі Уладзімірам Аксёнавым і Валерыем Быкоўскім на касмічную станцыю Салют-5. Яны фатаграфавалі Зямлю. Вярнуліся яны на Зямлю 23 верасня.

Я атрымаў з „Орбіса" экскурсію з польскай групай у Ялту. Гэта была адпачынкавая экскурсія. 19 верасня сустрэў я групу на варшаўскім аэрадроме і пасля пашпартнай і мытнай праверкі паляцелі мы ў Кіеў, а там пасля такога самага кантролю пераселі ў самалёт у Сімферопаль, адтуль аўтобусам завезлі нас у вялікую і высокую гасцініцу „Ялту" ля самага Чорнага мора. Там атрымалі мы двухмесныя пакоі з усімі выгадамі. Толькі я атрымаў пакой аднамесны. Пляж быў ля самай гасцініцы. Ежа ў рэстаране гасцініцы

была вельмі смачная. У Ялце я быў у 1970 г. Прыплыў сюды караблём з жонкаю з Адэсы на адзін дзень. Цяпер сюды прыехаў я другі раз на два тыдні.

Акрамя вольнага часу, каб загараць на пляжы і купацца ў Чорным моры, мелі мы з экскурсаводкай некалькі экскурсій. Адна экскурсія была катэрам па моры, дзе з мора мы пабачылі важнейшыя палацы Ялты, як „Лівадыю”, „Алупку” і іншыя месцы -- „Ластаўчына гняздо” на скале і бераг Чорнага мора, і Крымскія горы. Пасля была экскурсія ў палац Лівадыю, які калісь быў царскім палацам і ў якім праходзіла Ялцінская канферэнцыя Рузвельта, Сталіна і Чэрчыля. Пабачылі мы ўнутры ўсе пакоі ў палацы. Былі мы таксама ў палацы ў Алупцы. Аглядалі мы парк у Ялце. Завезлі нас у Бахчысарай у калішнюю сталіцу Крымскага Ханства, дзе нам паказалі ханскі палац (Хансарай) з яго гарэмам, з „Фантанам Слёз”, пакоем рускай царыцы Кацярыны II, якая сюды калісь прыязджала. Час прайшоў вельмі прыемна, без трагедыі, як на папярэдняй экскурсіі, і 3 кастрычніка завезлі нас у Сімферопаль на аэрадром і самалётам давезлі нас да Кіева, а з Кіева таксама самалётам вярнуўся я з турыстамі ў Варшаву.

8 кастрычніка аддалі ў грамадскае карыстанне шлях Варшава – Катавіцы.

14 кастрычніка прайшоў няўдалы палёт савецкай касмічнай ракеты „Саюз 23” з касманаўтамі Вечаславам Жыдавым і Валерыем Ражджественскім на станцыю „Салют -5” . Яны не маглі састыкавацца з „Салютам-5” і 16 кастрычніка вярнуліся на Зямлю.

16 кастрычніка з працы маёй жонкі Ніны была арганізаваная экскурсія аўтобусам на поўдзень Польшчы. Мяне яна запісала і заплаціла, і мы паехалі разам. Затрымаліся мы ў гасцініцы ў Кракаве і адзін дзень аглядалі мы старую сталіцу Польшчы, былі ў Вавелі і іншых музеях Кракава, а пасля паехалі на поўдзень у Пеніны.

Аглядалі мы стары амаль разбураны замак у Чорштыне і больш прыемны ў Нядзіцы, вазілі нас лодкамі на парогах ракі Дунайца і на чацвёрты дзень вярнуліся мы ў Варшаву. Тады толькі пачалі будаваць між Чорштынам і Нядзіцай вялікае вадасховішча. У 1997 г. пабудавалі ля Нядзіцы гідраэлектрастанцыю з дзвюма турбінамі магутнасці 46 мегаватаў кожная.

На выбарах ў ЗША Геральд Форд не быў выбраны на прэзідэнта. На яго месцы ў лістападзе стаў Джымі Картэр з дэмакратычнай партыі.

23 верасня 14 асоб стварыла Камітэт Абароны Рабочых рэпрэсіраваных (KOR) пасля забастовак у Радаме. Патрабавалі яны ад улады, каб вярнулі на працу ўсіх рабочых, якіх звольнілі, і каб улада правяла амністыю для асуджаных і выпусціла іх з турмы.

**Дзмітрый Шатыловіч**



# *Сустрэчы, прэзентацыі*

## Паўлючук вярнуўся ў бібліятэку

Нарваўская публічная бібліятэка арганізуе штомесяц сустрэчы з літаратарамі, і мастакамі і іншымі г.зв. цікавымі для сваіх чытачоў людзьмі. Пад канец зімы запрасілі прафесара Уладзіміра Паўлючука з Ягелонскага і Беластоцкага ўніверсітэтаў, які выступіў перад канцэртам барда і мастака Алега Кабзара.

Уладзімір Паўлючук – сацыёлаг, антраполаг і рэлігіязнаўца, публіцыст і пісьменнік, нарадзіўся ў 1934 г. у Рыбалах. У славутай кнізе 1974 г. „Вершалін. Рэпартаж пра канец свету” (яна найбольш зацікавіла слухачоў, паколькі з ваколіц Нарвы паходзілі некаторыя героі)

прадставіў феномен Вершаліна. Гэта згубленая вёска на Беласточчыне, Грыбоўшчына, дзе ў 30-х гадах мінулага стагоддзя група рэлігійных адступнікаў ад праваслаўя пад кіраўніцтвам прарока Іллі мела намер збудаваць новую сталіцу свету. Уладзімір Паўлючук апублікаваў м.інш. *Światopogląd jednostki w warunkach rozpadu społeczności tradycyjnej* (1972), *Żywioł i forma. Wstęp do badań empirycznych nad kulturą współczesną* (1978), *Naprawianie świata* (1978), *Potoczność i transcendencja* (1994), *Ukraina – polityka i mistyka* (1998), раман *Judasz* (2004). *Вершалін. Рэпартаж пра канец свету* стаў інспірацыяй шматклікіх тэатральных спектакляў і фільма Кшыштафа Вайцяхоўскага *Historia o proroku Eliaszu z Wierszalina.*

Творчыя пачаткі будучага вядомага аўтара і даследчыка – у „Ніве", у якой быў 13 гадоў. Тут знаходзім, між іншым, тэму Вершаліна, якую ён разгарнуў у далейшай творчасці. З ніўскіх карцін вырастае „Judasz". Уладзімір Паўлючук як „Уладзімір Паўлюк" вандраваў у пошуках праўды, як ніўскі следапыт і знакміты фатограф. Пасля арміі Паўлючук працаваў у бібліятэцы ў Рыбалах і там пісаў рэцэнзіі, якія дасылаў у „Ніву". Але ўжо і раней друкаваўся. Пачаў у арміі (служыў у пехацінцах-мінамётчыках), ад допісаў у вайсковы часопіс, пасля, м.інш., у „Zarzewie", „Nowa Wies". У той час папаўняў сваю педагагічную адукацыю, настаўнічаў, кончыў беларусістыку ў Настаўніцкай студыі ў Беластоку. На завяршэнні студыі, на балі ў БГКТ, Георгій Валкавыцкі стаў у яго дапытвацца, чаму ў апошні час малавата яго допісаў. „А, і так я журналістам не буду!" – „А чаму не? Я вас узяў бы адразу і сёння!" Яшчэ два гады былы бібліятэкар працаваў у ГП БГКТ, спачатку як старшы інструктар, пасля як кіраўнік культурна-асветнага аддзела, працягваючы супрацоўніцтва з тыднёвікам. На ніўскі штат прынялі яго 1 лютага 1963 года. У сваіх „Вандроўках пешахода" трапіў, між іншым, на тэму Вершаліна.

– У дзяцінстве ўсё гэта было прадметам фальклору, – прызнаецца аўтар. – Расказы вечарамі. Песенькі. „Пайшла маці да Грыбова, заставіла дочку ўдома..." Я за час працы ў „Ніве" кончыў сацыялогію, пісаў магістэрскую працу якраз аб Вершаліне, на гэтай тэме аснаваны таксама мой дактарат, у прафесара Млечкі, які таксама зрабіў я як ніўскі журналіст. Здзіўляецеся, адкуль у мяне час на ўсё быў? Тут неабходная добрая арганізаванасць. „Ніва" дала мне магчымасць адначасова сабраць цікавы матэрыял. Пайшоў я „ад загумення". Ездзіў у глыбінку. Не карыстаўся выдавецкай машынай, а ехаў аўтобусам, хадзіў ад вёскі да вёскі, ад чалавека да чалавека...



Фота Міры Лукшы

**Уладзімір Паўлючук з дырэктаркай нарваўскай бібліятэкі Аннай Анджэюк-Савіцкай і старшынёй Гміннай рады Евай Урбановіч**

Уладзімір Паўлючук, быўшы журналістам, калегаваўся з вядомым журналістам і пісьменнікам Эвардам Рэдлінскім.

– Рэдлінскі казаў: «Глянь, у „Ніве" адны арыгіналы працуюць». „Ніва" была атракцыйным месцам для літаратурных, і не толькі, асяроддзяў. Тут друкавалася часам такое, на што не маглі сабе дазволіць іншыя часопісы. Прыходзілі сюды людзі, як, напрыклад, Юзаф Дайчгеванд, пра якога паверхам вышэй, у „Беластоцкай газеце", пісалася як пра апальную асобу... Юрка Валкавыцкі мала і здзівіўся: „Ты яшчэ Гамулку сюды прывядзеш!" Рэдлінскі мае тэксты паказваў, чытаў у „Беластоцкай": так, казаў, трэба пісаць. У „Ніве" так можна! А мае „Запіскі пешахода" так і ўзніклі. Ходзячы ад вёскі да вёскі, ёсць час асэнсаваць пэўныя справы, абдумаць, зрабіць здымак, сустрэць людзей.

Ёсць гісторыі запісаныя, аб іншых дагэтуль ходзяць легенды, умела падаграваныя і цяперашняй папулярнасцю Прафесара, як сустрэча з Гандзяй пад Збучом.

– Гэтае імя стала імем гераіні „Judasza”... Кабета капала бульбу. Прысеў ля яе і я, стаў распытваць аб цяжкае вясковае жыццё. Пасля, за збожжам, стаў занатоўваць матэрыял для рэпартажу. Ідзе бабуля згорбленая пад хворастам, зраблю, думаю, здымак, з тэлеаб’ектывам. Прыцэліўся. Бабуля мяне звочыла. Крычыць: „Гандзю, а там што такое?” – „Э там, ходзіць якісь дурань па полі з апаратам і кажа, што яму тяжко!” У той самы дзень меў я журналісцкую сустрэчу ў збучоўскай святліцы. Такіх сустрэч у нас было шмат – з чытачамі, распавядалі мы і аб друкаванні „Нівы”, і вялі іншую асветную беларускую справу (я прымаў удзел недзе ў каля 200 сустрэчах, разам са Шведам, Баршчэўскім). Бачу, што сабраныя не вельмі на мяне глядзяць, а недзе ўбок. А там – тэлевізар. „Ты гавары, гавары, нам абы толькі карцінкі!” Праўда, голасу ад тэлевізара амаль не чутна. Бачу, што не вельмі я тут на месцы. Думаю, хоць здымак зраблю, будзе ў „Ніву”, як народ у клубе-святліцы да культуры горнецца. Бліснула фоталяпма. „Аяй! – схапіўся за вочы глядач. – Мала што нічога не чую, а яшчэ й не бачу! Асляпіў!”

„Ніва” была, як і „Лявоніха”, беларускай установай, якая перш за ўсё людзям асацыявалася з беларускім рухам і духам. З беларускай справай.

Калі Паўлючук стаў апальным журналістам, паставіўся яму закід у нацыяналізме.

– Якраз тады паляцела пару асоб. Сакрат Яновіч, Збышка Насядка, Эдвард Рэдлінскі. Як казалі пра мяне, я *sprzymierzyłem się z wrogiem partii*, да таго палякам. Стаў я адначасова нацыяналістам і польскім, і беларускім. Кіраўнік парткантролю Кірылюк сказаў: *To jest, niestety, prawda – jesteście nacjonalistą i polskim, i jednocześnie białoruskim*. Працаваць мне партыя ў „Ніве” не дазволіла. *Szukajcie pracy, szukajcie, bo podciągniemy was pod ustawę antypasożytniczą!* Я быў тады ўжо доктарам сацыялогіі, да таго з настаўніцкім дыпломам пасля педліцэя. Шукаў працы ў школе. У куратарыі сказалі, што маглі б мяне паслаць у вясковую школу, але я некваліфікаваны настаўнік, а хапіла ім тады кваліфікаваных... Першыя тры месяцы рабіў я ў... ЦК ПАРП, у Працоўні доследаў над моладдзю. Хацелі мяне там прыняць на штат, паслалі ліст у Беласток па рэкамендацыю, і атрымалі страшныя звесткі – вось мяне выкінулі з партыі як нацыяналіста, такі я і такі, да таго падазраваюся ў... падпале ваяводскага камітэта партыі! Шэф па друку ЦК, брат Рышарда Капусцінскага, хацеў мяне ратаваць, запрапанаваў мне працу ў новым часопісе ў Слупску. А дзе ж цягнуцца з усім абозам – у мяне была ўжо сям’я! Знаёмыя аформілі мне працу ў ваяводскай управе па справах цагельніцтва як спецыяліста па арганізацыі цэглаў... Працаваў тры месяцы. Паўгода быў без граша, жонка таксама не працавала. „Перахавалі” мяне ў бібліятэцы беластоцкага Філіяла Варшаўскага універсіэта як „адзінага рэвізяніста, якога выпадае мець шаноўнай вучэльні”, да часу, калі змяніўся ваяводскі сакратар партыі. Здзіслаў Куроўскі сам запрапанаваў мне сустрэчу, распытаў, ці не хачу вярнуцца ў „Ніву”. Я хацеў застацца ўжо ў навуцы. Куроўскі рэкамендаваў мяне ў Асяродак навуковых даследванняў. Мабыць, хацеў неяк пакрыць маю крыўду.

Уладзімір Паўлючук застаўся ў навуцы. Стаў адным з першых у Польшчы і не толькі сацыёлагаў, рэлігіязнаўцаў. Ягоныя кнігі сталі настольнымі для пакаленняў навукоўцаў. Пасля апавядання, якое стала культавым, беларускага „Цудадзейнага шкельца” (яно апынулася ў зборніку найлепшай беластоцкай беларускай прозы другой паловы XX ст.), на ўсю Польшчу прагучаў ягоны „Judasz”. Тут аўтар вяртаецца да тэмы, якую распрацаваў навукова. Гэты тэкст – аб даспяванні чалавека ў гісторыі. Хлопец Саша – з Каменя пад Гайнаўкай.

– Пісаў я – перш за ўсё для псіхатэрапіі. Гісторыю ўвёў свядома, каб зацерці гэту сувязь, што гэта кніга – у сапраўднасці аба мне самім. Як можна паказаць Сашку з Каменя ці з Рыбалаў на працягу сарака гадоў? Гэта быў свядомы і спецыяльны прыём. Успрыманне „Judasza” ў Польшчы спрыяльнае, крытыкамі і чытачамі (тыраж практычна раскупіўся, кніга дадрукоўвалася). Адзін з крытыкаў у Варшаве на сустрэчы, здаецца, трапна сказаў: „Сам хацеў быць дэміургам і паправіць свет, але змогся”. Гістарычны матыў я хацеў падпарадкаваць псіхалагічнай праўдзе. Пішучы „Judasza”, дасведчыў цікавага творчага механізму. Толькі ў канцы даведаўся я, аўтар, што стане з героем! Пісаў згодна з інтуіцыяй. Цешуся з публікацыі „Judasza”, бо тыя, хто са мною жыў, аднойдуць там сябе.

**Міра Лукша**

## Музей „Бацькаўшчына” ў Рыбалах

Музей матэрыяльнай культуры „Бацькаўшчына” ў Рыбалах, экспанаты якога – сведкі мясцовай беларускай традыцыі і культуры, вырас з гісторыі вёскі і ваколіц. Стваральнікамі музея „Бацькаўшчына” з’яўляюцца матушка Антаніна Троц-Сасна і настаяцель рыбалаўскага Касмадзям’янскага прыхода мітрафорны протаіерэй Рыгор Сасна. Яны пры дапамозе сваіх прыхаджан, людзей добрай волі і пры падтрымцы мясцовых улад сабралі больш за дзве тысяч экспанатаў. Адкрыццё музея „Бацькаўшчына” адбылося 1 мая 2009 года, калі айцец Рыгор Сасна адзначаў 70-годдзе з дня нараджэння. «Нас радуе, што радныя аднадушна прагаласавалі, каб перадаць будынак на музейную дзейнасць і што надалей паступае дапамога з

гміны», – сказаў айцец Рыгор Сасна. Тады было ў музеі каля 300 экспанатаў, а зараз больш за 2000, апрача паштовых марак (іх некалькі тысяч змешчаны на другім паверсе, якія нядаўна передалі Марыя і Данат Макалі з Беластока).

Нядаўна выйшла кніжка аўтарства матушкі Антаніны Троц-Сасны – „Бацькаўшчына" Музей матэрыяльнай культуры ў Рыбалах», якая расказвае пра ўзнікненне музея, гісторыю мясовасці і пералічвае сабраныя экспанаты. Дэталёва ў ім апісаны паасобныя экспанаты і выставачныя аддзяленні. Выдаўцом кніжкі з'яўляецца аб'яднанне „Музей малой айчыны ў Студзіводах", а рэдактарамі – Дарафей Фіёнік і Тамаш Суліма. Галоўнымі спонсарамі новавыдадзенай кніжкі з'яўляюцца Маршалкоўская ўправа Падляшскага ваяводства, Гарадская ўправа Заблудава, Праваслаўны прыход у Рыбалах і Брацтва св. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку.

– Музей у Рыбалах вырас з гісторыі вёскі і яе наваколля. Без традыцый, без культурнага кантэксту цяжка было б стварыць месца, якое аб'ядноўвае матэрыяльны і духовы здабытк мінулых пакаленняў гэтай зямлі, – мяркуе матушка Антаніна, якае шмат часу працуе ў музеі на грамадскіх пачатках і ахвяроўвае многа свае сілы дзеля яго дзейнасці.



Фота Міры Лукшы

**Захаваліся і даўнія вуллі**

Апісванне музея ў даведніку распачынаецца менавіта з гісторыі вёскі Рыбалы і падзей, якія спрычыніліся да ўзнікнення музея „Бацькаўшчына". «Музей гэта сабраныя мёртвыя прадметы, але, гледзячы на экспанаты, старэйшыя людзі ўспамінаюць свой сямейны дом, дзяцінства сярод мэблі і прылад. Прадметы сабраныя ў музеі гадамі былі з дзядулямі, бацькамі і дзеткамі, а цяпер радуюць нашых наведвальнікаў. Музей у Рыбалах узнік з патрэбы сэрца, а зараз з'яўляецца соллю зямлі праваслаўнага прыхода» – напісала ў кніжцы матушка Антаніна.

У кніжцы складзены каталог музейных экспанатаў, названых на рыбалаўскай гаворцы і на польскай мове, яны апісаны, названы таксама імёны ахвяравальнікаў экспанатаў. Экспанаты падзелены на 15 выставачных аддзяленняў, паводле іх прызначэння і апісаны ў кніжцы ў 15 раздзелах, па характары прылад і вырабаў. Музейныя экспазіцыі знялі Аліцыя Ігнацюк і Наталля Дораш

Кніжка „Бацькаўшчына" Музей матэрыяльнай культуры ў Рыбалах» гэта перш за ўсё падзяка для шматлікіх ахвяравальнікаў, якія перадалі экспанаты ў музей.

З часам прадбачваецца прыдбаць больш прафесійнае абсталяванне для прэзентацыі экспанатаў, замена часткі аконнай сталяркі, а ў будучыні грунтоўны рамонт будынка. Прызначана для музея працаўніца, якая дбае за парадкам у будынку і на былой школьнай плошчы, а яе зарплата аплачваецца з бюджэту Заблудаўскай гміны.

Матушка Антаніна не проста апісвае экспанаты, але цікава расказвае пра сельскагаспадарчыя ці хатнія работы, у час якіх выкарыстоўваліся розныя прылады працы. Звяртае ўвагу на святы, вераванні людзей, іх зацікаўленні, а нават спосаб адпачынку. Дэталёва апісвае: «Верхняе адзенне куртка – *пінжак* – было рамесніцкім вырабам цёмна-зялёнага колеру або з смадзелкі. Перад і спіна былі неадцятыя, рукавы простыя, ля шыі выкладаны каўнер з невялікімі кляпамі або з баранім кажушком. Па баках былі дзве ўпушчаныя кішані, зашпільваныя на гузікі...» Пералічвае па чарзе экспанаты з адзення – куртка – *пуўпальтко* кароткае з плюшу, чорнае, дар Валянціны Харытанюк з Рыбалаў; чуйка – *чугай,* ды *пуўпальток* жаночы – дар Любы Ануфрыюк з Паўлаў, бурка – *чуйка* шэрага колеру, дар Любы Клімюк з Канюк; шынель – жаўнерскі плашч, дар Анны Даніловіч з Рыбал, мужчынскае чорнае паліто з каўняром з нутрыі ды жаночая куртка з ця-



**Будынак былой пачатковай школы ў Рыбалах. Цяпер тут музей „Бацькаўшчына"**



Фота Міры Лукшы

**Матушка Антаніна са сваёй кніжкай**

лячых скур – дар Анны Даніловіч з Рыбал. Ёсць і *саяны* ды іншыя спадніцы ад Веры Харытнюк, Зінаіды Добаш, Тацяны Шпілеўскай з Рыбалаў, Любы Клімюк з Канюк, Вольгі, Мікалая і Яўгеніі Ткачукоў з Бельска-Падляшскага, Серафімы Кур'янюк з Войшак... «Змой насілі баранія кажухі: мужчынскі і жаночыя. Мужчынскія кажухі шылі даўней з негарбаваных авечых скураў, пасля іх выраблялі на жоўта-карычневы колер (дуб), аздаблялі ззаду малым хвосцікам. Жанчыны насілі кароткія кажухі жоўта-карычневага колеру, з вялікім выкладваным каўнярам, са светлай авечай футры, часта абшытыя наўкола светла-шэрай кароткай футрай. Кажухі вышываліся каляровым малым крыжыкавым гафтам. Мелі доўгія рукавы, а па баках ушытыя кішані. Шыццём кажухоў займаліся рамеснікі, славіўся гэтым майстэрствам бельскі раён Дубічы...» Пералічаны фартушкі, кажухі, сарочкі і кашулі, хусткі, шалікі, *кофты*... Святочнае адзенне, часам дарагія сямейныя памяткі з вянчання. Экспанаты, якія асацыююцца з самым блізкім і родным – ложкі, скрыні-сундукі, сталы. І дробнае, што заўжды было дома – талеркі, збанкі, гаршкі, валкі, таўкачыкі, маслабойкі, макутры, кацюбы, праскі, лямпы, лыжкі, дзежкі, канкі, чайнікі, друшлякі, бязмены, капанькі... Экспанаты ў кнізе падзелены такім чынам: сельская гаспадарка; стадола і яе абсталяванне; апрацоўка сыравін; пчалярства; прылады хатняга штодзённга ўжытку – падрыхтоўка і захоўванне харчоў; кухня і яе абсталяванне; вялікая хата; апрацоўка валакна, ткацтва і рукадзелле; жаночае і мужчынскае адзенне ды абутак; пральня; салома- і лазапляценне; кавальская і сталярская справа; тэхніка, лясны куточак; бібліятэка. У сенях школы была ўзноўлена кузня з яе абсталяваннем – кавадлам, карытам з вадой для гартоўкі жалезных прадметаў, молаты і малаткі... Збіральніца апісвае дэталёва прылады і тлумачыць іх дзенняе:

– Дзякуючы ахвяравальніку (Януш Талуць з Беластока), у кузні знаходзіцца старая тачылка-вастрылка, якая складваецца з драўлянага карытца з вадой і круглага каменя, асаджанага на дручку з ручкай. Тачылка прыводзіцца ў рух пры дапамозе дзяржальні і такім чынам вострацца нажы, сякеры і гэтак далей, – са знаўствам тлумачыць матушка Антаніна. – А наконт сталярства – незаменнай прыладай для столяра быў сталярскі станок, які застаўся па маім бацьку Аляксею Троцу. – Гэта прадаўгаваты стол, на якім з аднаго боку замацаваны дзве драўляныя гайкі, а з другога падоўжнае паглыбленне на розныя сталярскія прылады... – І тут пералічаны сабраныя прылады: стругі-гэблі, спусты, долаты, адвёрткі, пілы, сякеры. Ёсць там і такарны станок, са струнавым прыводам (шнур накручаны вакол прыводнага вала, прымацаваны да нажнога педаля), падараваны Надзеяй Раманюк з Паўлаў. Само прачытанне пераліку эспанатаў дае ўяву пра багацце сабранага матэрыялу.

Кнігу атрымаюць ахвяравальнікі эспанатаў, людзі не толькі з Рыбалаўскага прыхода, але і з усёй Беласточчыны, якія сардэчна дакладіся да збораў.

– Музей наш будзе служыць захаванню ад забыцця нашай культуры і тоеснасці, а дзякуючы добраму распалажэнню побач краёвай дарогі E-19, павінна яго наведваць многа людзей, – рады айцец Рыгор Сасна. – Прозвішчы нашых ахвяравальнікаў застануцца для наступных пакаленняў.

**Міра Лукша**

*«Бацькаўшчына». Muzeum Kultury Materialnej w Rybołach»,* аб'яднанне „Музей малой айчыны ў Студзіводах, Рыбалы – Студзіводы 2011, сс 136



Фота Міры Лукшы

**У адным з 15-ці выставачных аддзяленняў музея**

## Запісана каштоўная спадчына Гарадоччыны

Сцяпан Копа ў апошнія гады апублікаваў ужо восьмую кніжку з падборкай беларускай музычнай спадчыны Беласточчыны. У 2006 г. быў надрукаваны зборнік песень з ягонай роднай гміны Орля, а ў 2008 г. абшырны зборнік хрысцінных песень цэлай усходняй Беласточчыны. Зараз пабачыла сьвет абшырная – на больш за 250 старонак – кніжка „Pieśni białoruskie ziemi gródeckiej. Беларускія песні Гарадоцкай зямлі" выдадзена Гмінным цэнтрам культуры ў Гарадку. Гэта першы




такі абшырны і тэматычна разнастайны зборнік народных песень з тэрыторыі дзе мясцовае насельніцтва яшчэ размаўляе на гаворцы вельмі набліжанай да беларускай літаратурнай мовы (частка Беластоцкага і Сакольскага паветаў).

Аўтар, шматгадовы настаўнік і інструктар беларускіх калектываў, ўратаваў ад забыцця частку багатай музычнай ды абрадавай спадчыны беларусаў Падляшша. Пішу свядома слова „частку”, таму што гэта толькі фрагмент некалі багатай народнай культуры, якой носьбіты амаль што паўміралі. Сцяпан Копа, наколькі гэта было магчымае, гэтую яшчэ жывую народную спадчыну запісаў на сваім магнітафоне. Амаль усе запісы былі зроблены ў другой палове дзевяностых гадоў. Большасьць запісаных выканаўцаў нарадзілася ў канцы 20-ых ды 30-ых гадоў мінулага стагоддзя, хаця найстарэйшая асоба нарадзілася ў 1902 г. ды была запісана ў 1980 годзе. Тым самым вялікая праца аўтара стаецца яшчэ больш каштоўнай, – зараз многія з гэтых людзей адышлі ад нас, ды ў гэты момант немагчым было б запісаць столькі песень. З кожным годам штораз менш сярод нас носьбітаў народнай культуры.

Песня гэта адзін з вядучых фактараў аўтэнтычнай культуры. У даўнія часы песня была неадлучнай часткай жыцця нашах прабабуляў ды прадзядоў. Прысутнічала ў хрысцінах, святах, абрадах, цяжкай штодзённай працы, вянчанні, вяселлі аж па смерць і паховіны.

Зараз у нашым штодзённым жыцці песня зусім не прысутнічае, хіба што па радыё ці тэлебачанні. З кожным годам штораз менш спяваецца за бяседным сталом ці пры іншых нагодах. Жыццё стаецца лягчэйшае, але ці весялейшае?

Абшырны ўступ напісаў сам аўтар. Ён надрукаваны на польскай ды беларускай мовах. У ім абшырна апісана характарыстыка музычнага фальклору. Таксама аўтар даў вельмі добрую ацэнку культуры мясцовага насельніцтва, назваў імёны мінулых і сучасных выдатных мастакоў, пісьменнікаў родам з Гарадоцкай зямлі. Такіх як сучасныя Лявон Тарасэвіч, Павал Грэсь, Ігнат Карповіч, Адам Сяменчык. Спісак гэтых прозьвішчаў можна яшчэ дапаўняць хаця б прызабытым Антонім Каменскім з Ярылаўкі, выдатным мастаком, адным з першых ілюстратараў творчасці Э. Ажэшка, Б. Пруса, аўтарам партрэтаў Я. Пілсудскага, ці вядомай між іншым са старонак „Часопіса” Лены Глагоўскай, таксама з Ярылаўкі, выдатнай даследчыцы беларускай культуры, аўтаркі трох навуковых кніх, некалькі соцень артыкулаў, рэдактара 25 кніжак.

У зборніку знайшлося каля 250 песень з 13 мясцовасцей Гарадоцкай гміны. Падзелены яны на VIII раздзелаў (песні вясельныя, хрысцінныя, канапелькі, веснавыя, жніўныя, рэкруцкія, бяседныя, розныя) ды дадатак з песнямі апрацаванымі і запісанымі аўтарам. Усе песьні маюць нотны запіс, мясцовасці і прозвішчы выканаўцаў ды ў канцы кніжкі год іх нараджэння, дату запісу. Тэксты напісаны лацінскімі літарамі ці лепш можна сказаць польскімі літарамі. Частка запісаных песень была ў рэпертуары калектываў з Гарадка, Меляшкоў ці салістаў (напрыклад Юрыя Налівайкі).

Чытаючы песні можна бачыць своеасаблівыя прыкметы гаворкі гэтай тэрыторыі, але амаль усе яны падобныя зместам да народных твораў з іншых куткоў Падляшша, напрыклад Гайнаўскага ці Бельскага паветаў. Адрозніваюцца гаворкай, вымаўленнем паасобных слоў. Гартаючы фальклорныя запісы з XIX ст. вядомага Міхала Федароўскага, які запісаў між іншым песні з вёсак суседняй гміны Міхалова, з творамі запісанымі 100 гадоў потым, мала чым яны адрозніваюцца. Розніцы выступаюць у паасобных словах. Папросту яны жылі сваім жыццём, дабаўляліся паасобныя словы, радкі. Большасць песень сягае больш чым стогадовай даўніны, можа ёсць нават яшчэ старэйшыя, асабліва вясняныя, жніўныя ці хрысцінныя. У гэтых творах апісана штодзённае жыццё, абрады. Але таксама можна пабачыць псіхічныя прыкметы герояў, народны гумар. Іронія, жартаўлівасць не былі чужымі нашым продкам. У адной з хрысцінным песень чуем:

*Ты думаеш, дурню,*
*што я це любіла?*
*– Я такімі дуракамі*
*платы гарадзіла.*

Ці ў дзіцячай:

*Ходзіць бусел па балоці –*
*Носіць дзеці ў капоці.*
*Таму й таму прадаваў,*
*А нам Алю дармо даў.*

Варта было б на выданні друкаванай версіі песень не затрымацца. Трэба падумаць пра камп’ютарную апрацоўку магнітафонных архіўных запісаў, паправіць іх гук ці нават зрабіць сучаснае выкананне, у музычнай стыдыі. Хаця б некаторых твораў.

Сабраная аўтарам каштоўная спадчына павінна быць папулярызаваная пры дапамозе сучаснай тэхналогіі.

**Вячаслаў Харужы**

*„Pieśni białoruskie ziemi gródeckiej. Беларускія песні Гарадоцкай зямлі”. Сабраў і апрацаваў Сцяпан Копа, рэдакцыя: Юры Хмялеўскі, Міраслава Лукша, Гарадок 2011, с. 266.*




# Радкі з лістоў, адгалоскі

## To zwalanie winy na innych

*Dobrze, że w Sejmie RP jest chociaż jeden przedstawiciel mniejszości białoruskiej. Może wśród posłów jest więcej Białorusinów, ale na pewno jest jeden, który do tego się przyznaje. I to nieważne z jakich powodów. To samo w sobie jest cenne. Mało tego, uważa, że reprezentuje tę mniejszość, choć do Sejmu został wybrany nie jako przedstawiciel mniejszości, ale jako kandydat Sojuszu Lewicy Demokratycznej.*

*Jak dba o mniejszość, można wyrobić sobie zdanie na podstawie cytowanego przez p. posła Czykwina, bo o nim tu mowa, jego wystąpienia („Czasopis” Nr 3 z 2012 r.) w Sejmie w trakcie debaty 12 stycznia br., dotyczącej obywatelskiego projektu zmiany ustawy o ochronie przyrody.*

*Stwierdziłem na początku, że dobrze, że jest przynajmniej jeden Białorusin w Sejmie. Ale użyta argumentacja w wystąpieniu, rzekomo w obronie mniejszości białoruskiej, której wg p. posła Czykwina zagrażają środowiska proekologiczne z projektem ustawy likwidującą „liberum veto” samorządów w sprawie parków narodowych, trąci demagogią.*

*Pan poseł używa mniejszości białoruskiej jako tarczy przeciw uchwaleniu skądinąd bardzo potrzebnej ustawy. Odpowiadając p. Korbelowi „Zamiast polemiki” twierdzi, że w przeciwieństwie do niego przedstawi prawdziwe argumenty. Jakie to są argumenty?*

*Mało tego, że rejon Puszczy Białowieskiej jest jednym z najbiedniejszym w kraju, to jeszcze decyzje ministra środowiska sprawiły, że mieszkańcy tego rejonu znaleźli się w jeszcze trudniejszej sytuacji, bo zamiast drewnem muszą palić droższym węglem. I to nie tylko mieszkańcy, ale i o zgrozo nadleśnictwo w Hajnówce też. Teraz nie wiem, czy chodzi o to p. posłowi, że palą węglem, czy może że droższym od drewna? I skąd poseł wie, że tak właśnie jest, nie poparł tego stwierdzenia żadna prawdą, jak obiecywał. I skąd pan poseł wie, jak mówi w Sejmie i cytuje w „Czasopisie”, że „wiąże się z tym zagrożenie utraty miejsc pracy”. To znaczy z tym zarządzeniem ministra wiąże się zagrożenie utraty miejsc pracy i że to jest wyliczalne na mur beton? Jak „wyliczalne”? Skoro jakoś to jest „wyliczalne”, to następuje wg p. posła proces migracji ludności białoruskiej do innych regionów kraju i w następstwie Białorusini polonizuja się. „Polonizują” się z powodu zarządzenia ministra środowiska?! I tak dalej, i tym podobne argumenty. Wszystkie w trosce o mniejszość białoruską. Nic o Puszczy Białowieskiej i zagrożeniach dla jej istnienia jako naturalnego lasu p. poseł Czykwin nie mówi. Nie, przepraszam, mówi: „...gdybyście państwo zauważyli ubytek jakiegokolwiek gatunku przyrodniczego czy ptaków, dzięcioła trójpalczastego czy jakiejkolwiek rośliny w ciągu 20 lat o 30%, rzucilibyście się słusznie do obrony, natomiast ponieważ zmuszacie tych ludzi do wyjeżdżania, do utraty swojego języka, kultury, tradycji, milczymy na ten temat. To jest kwestia, której nie możemy nie brać pod uwagę, rozważając problemy rozszerzenia puszczy”. Broniąc w ten sposób Białorusinów p. poseł obnażył, w sumie, prymitywizm użytych argumentów. Pokazał przy tym, że ta władza wybrana z woli ludu, na szczeblu najwyższym i tym regionalnym, dla tego ludu niewiele robi, skoro wskazany region jest jednym z najbiedniejszym w kraju i z którego ludzie wyjeżdżają, bo nie ma pracy. Zwalanie winy na ekologów i ochronę puszczy to jest unik przed odpowiedzialnością za taki stan rzeczy. Może nie karną, ale na pewno polityczną. Czas, aby całe to niby lewicowe bractwo, które tylko zwodzi Białorusinów, odeszło w niebyt historii. Latami wykorzystują naiwność i łatwowierność, aby być tylko przy korycie. Nie dziwię się, że żadne rozsądne argumenty nie docierają, nie tylko do p. posła, ale i innych, którzy w takim stanie rzeczy widzą tylko swój interes.*

*Puszcza Białowieska to bogactwo nie tylko kolonistów, którzy przybywają jednak w te biedne rejony, spolegliwych Białorusinów, ale i całej ludzkości. Bogactwo trzeba chronić, ale i trzeba mądrze z niego korzystać.*

*Tak, panie pośle Czykwin, starałem się chociaż troszkę przybliżyć do prawdy w sprawie Puszczy i nie tylko!*

***Michał Kuptel***

## Droga Redakcjo!

*Nie pamiętam, bym kiedykolwiek przeczytał zdanie, w którym byłoby tyle pomyłek, co w zdaniu Tomasza Sulimy: “Celem byli wspomniani wcześniej Poleszucy, których aż mi-*

*lion podczas spisu powszechnego w 1923 roku określił się jako "tutejsi" (Czasopis, 3/12).*

*Po pierwsze, w 1923 roku nie było w Polsce żadnego spisu powszechnego. Takie odbyły się w 1921 i 1931 roku. Trudno się domyślić, o który spis chodziło autorowi, ale wielkie liczby rzekomych "tutejszych" zdają się wskazywać na rok 1931.*

*Po drugie, w spisie 1931 roku nie było kategorii narodowość, tylko język, więc można mówić tylko o osobach rzekomo posługujących się językiem „tutejszym".*

*Po trzecie, każdy, kto interesował się Polesiem, wie doskonale, że nikt nigdy tak swojego języka w tym regionie nie nazywa. Mówi się "po swojomu", "po naszomu", "po prostomu", ale w żadnym wypadku "po tutejszemu". Nikt też nie mógł sam siebie nazwać "tutejszym", bo ludność Polesia takiego polskiego słowa po prostu nie znała.*

*Po czwarte, nie milion, a 707 tysięcy w całym województwie poleskim. Jak widać, nie tylko daty, lecz także liczby autor traktuje z daleko posuniętą dezynwolturą.*

*Po piąte i najważniejsze – nikt nigdy tak się nie określił! Wszyscy rzekomo posługujący się językiem "tutejszym" to wymysł administracji rządowej, która wymogła na Głównym Urzędzie Statystycznym publikację fałszywych wyników dla województwa poleskiego ogółem. W związku z tym wyników dla mniejszych jednostek administracyjnych tego województwa nigdy nie opublikowano, gdyż wówczas oszustwo byłoby zbyt oczywiste, a także zabroniono dostępu do danych spisowych naukowcom. Dane spisowe spłonęły w powstańczej Warszawie w 1944 roku i nigdy już nie poznamy prawdziwych wyników.*

*Zadziwiająca jest przy tym szczera wiara autora w wyjątkowe zacofanie swoich pradziadów, skoro spod jego pióra wyszło następujące zdanie: "Mieszkańcy Polesia byli narodowościowo niezagospodarowani, ponieważ nie opowiedzili się ani po stronie białoruskiej, ani ukraińskiej". Tymczasem w spisie 1921 roku ludność województwa poleskiego podała narodowość białoruską albo rusińską (taką narodowość podawali Ukraińcy, bo narodowości ukraińskiej władze spisowe nie uznawały). Terytorialnie podział ten przebiegał tak jak i obecnie: na Polesiu Wołyńskim deklarowano narodowość rusińską (ukraińską), a na brzesko-pińskim – białoruską. Zresztą, jak mogło być inaczej, skoro już w latach 1903-1913 prawie wszyscy poborowi z białoruskiej części Polesia Zachodniego deklarowali narodowość białoruską?*

*Rzekomi posługujący się językiem "tutejszym", wykazani w opublikowanych wynikach spisu powszechnego 1931 roku, to największy humbug w dziejach polskiej demografii i statystyki. I niezmywalna plama na honorze GUS.*

*Z naukowym pozdrowieniem*

***Oleg Łatyszonek***

## *Заўвагі да артыкула пра Рыгора Шырму*

*Вельмі добра сталася, што Сяргей Чыгрын успомніў Рыгора Шырму. Штораз радзей успамінаюцца беларускія дзеячы XX ст. Вырастаюць новыя героі і яны выпіраюць памяць пра ранейшых. Калі б не відавочныя памылкі ў артыкуле, можна было толькі прыпляснуць юбілейнаму напаміну пра Рыгора Шырму. У тэксьце паяўляецца памылковая назва Беларускага Студэнцкага Саюзу (с. 36). Хопіць, што ўжо ў перакладзе на польскую мову шмат хто са знатных гісторыкаў нарабіў памылак, быццам бы не ведаючы, што на польскай мове існавала арыгінальная назва: Białoruski Związek Akademicki. Сяргей Чыгрын успамінае артыкул пра Рыгора Шырму, які надрукаваў „нехта В. Багдановіч". Зьдзіўляе, што вядомы беларускі дзеяч, сэнатар двух кадэнцыяў (1922-1928 і 1928-1930) Вячаслаў Багдановіч гэта „нехта". Дарэчы, сэнатар таксама пісаў музыку да беларускіх твораў Янкі Купалы, Максіма Багдановіча. Сьведчаць пра тое захаваныя ў сямейным архіве ноты. Раю зазірнуць у мой абшырны артыкул пра яго ў „Czasopisie" (2001, № 10-12).*

*Не ведаю, адкуль Сяргей Чыгрын узяў здымак (с. 36), які быццам бы прадстаўляе „Вечар беларускай паэзіі і песьні ў Віленскім універсітэце". Дзе тут „вечар", калі на здымку група маладых беларускіх дзеячаў, м. інш. беларускіх студэнтаў Віленскага ўнівэрсытэта? Прытым недакладна пазначаны час гэтага здымка (1930-я гады) і ідэнтыфікацыя на ім некатарых асоб памылковая. Па-першае, хто гэта Р. Бярозка? Вядомы ў нас паэт Анатоль Бярозка ў сапраўднасьці гэта Мітрафан Смарчок, але я прынамсі яго на здымку не бачу. Бачу затое Вітаўта Тумаша. Таксама памылкова падпісаны першы злева направа. Гэта ж Вінцук Склубоўскі, які пасьля 1956 г. жыў у Беластоку, а тады быў студэнтам права.*

*Можа варта згадаць таксама пры нагодзе, што на здымку прадстаўлены дзеячы левай фракцыі Беларускага Студэнцкага Саюзу.*

***Лена Глагоўская***

**Katedra Kultury Białoruskiej Wydział Filologiczny Uniwersytetu w Białymstoku**

zaprasza na

**Czwartek białoruski (konwersatorium interdyscyplinarne)**

26.04.2012
**Kult przodków wśród Białorusinów** – dr Grażyna Charytoniuk-Michiej (prezentacja autorskiej książki „Obrzęd dziadów w dokumentach i w cyklu Mickiewicza")

Ul. Liniarskiego 3, s. 1B, godz. 17[00]



**Na przepustce było napisane, że odprawiam się do Białegostoku, tak podałem. Poszedłem na stację i przez okienko podaję kasjerce. A ona do mnie z krzykiem: „Kakoj czort, my w Polszu nie dajom biletow!”. Tolko do stacji Grodno, Wołkowysk i Breść”. Postanowiłem przechytrzyć tę kasjerkę. Wróciłem do kasy i zacząłem przekonywać kobietę, że się myli, bo Białystok znajduje się nie „u Polszczy a u Rasieji”, i że otrzymuję listy stamtąd. Kobieta wpatrywała się w mapę CCCP**...



**Początki tradycji muzealnej w Białowieży sięgają drugiej połowy XIX wieku. Po pierwszym carskim polowaniu, które odbyło się w Puszczy Białowieskiej w 1860 roku, pozostało trochę pamiątek. Miejscowe władze leśne zdecydowały, że będą one zebrane i eksponowane w jednym miejscu. Najlepsze warunki do tego celu posiadał budynek wybudowany w 1845 roku dla potrzeb namiestnika tzw. Północno-Zachodniego Kraju, innymi słowy – ziem dawnego Wiel**... (dalej w kolejnych numerach


# *Czasopis*

Nr indeksu 355035, ISSN 1230-1876.
**Wydawca**: Stowarzyszenie Dziennikarzy Białoruskich.
**Adres redakcji**:
Białystok, ul. Lipowa 4/221.
**Adres do korespondencji**:
„Czasopis”, 15-001 Białystok, skr. p. 262. **E-mail**: redakcja@czasopis.pl
http://czasopis.pl
Tel. (85) 653 79 66

**Redaktor naczelny**: Jerzy Chmielewski, tel. 502 661 316.
**Zespół redakcyjny**: Wiesław Choruży, Helena Kozłowska-Głogowska, Sławomir Iwaniuk, Tomasz Sulima (sekretarz redakcji), Jerzy Sulżyk.
**Stali współpracownicy**: Piotr Bajko (Białowieża), Tamara Bołdak-Janowska (Olsztyn), Agnieszka Goral (Lublin), Mirosława Łuksza, Janusz Korbel (Białowieża), Aleksander Maksymiuk, Jan Maksymiuk (Praga), Michał Mincewicz (Orla), Dorota Wysocka.
**Druk**: Orthdruk, Białystok.




**Prenumerata**: Odpowiednio do liczby zamawianych egzemplarzy i okresu prenumeraty należy wpłacić wielokrotność 4 zł na rachunek: Stowarzyszenie Dziennikarzy Białoruskich: Bank PEKAO S.A. Białystok 30 1240 5211 1111 0000 4928 9343.
Беларускі грамадска-культурны часопіс, прысвечаны пытанням сучаснасці, гісторыі, літаратуры і мастацтва, месца чалавека ў свеце. Форум думкі беларусаў і ўсіх тых, каму блізкая беларуская тэматыка. Пазіцыі аўтараў тэкстаў не заўсёды адпавядаюць пазіцыям рэдакцыі. Не публікуюцца матэрыялы, якія прапагандуюць камуна-фашызм, расізм, нацыянальную варожасць.
Artykuły i listy publikowane są – o ile autor nie życzy sobie inaczej – w języku oryginału: po polsku lub białorusku. Redakcja zastrzega sobie prawo do skrótów, zmian tytułów i redagowania nadesłanych tekstów.

Materiałów nie zamówionych redakcja nie zwraca.

*Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.*

Numer złożono 26 marca 2012.